Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!



# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 27 лістапада 1987 г. № 48 (3406) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.



**На сцэне — Дзяржаўны Малы сімфанічны аркестр Саюза ССР пад кіраўніцтвам Юрыя Сіманава. Канцэртам гэтага калектыву з удзелам салісткі Людмілы Івановай адкрыўся ў Мінску XIV Усесаюзны фестываль мастацтваў «Беларуская музычная восень».**

**Штрыхі да партрэта фестывалю вы знойдзеце на другой старонцы сённяшняга нумара нашага штотыднёвіка.**

## У НУМАРЫ:



# ПРАЦАВАЦЬ НА ПЕРАБУДОВУ, ПРАЦАВАЦЬ У ІМЯ ПЕРАБУДОВЫ

**З адкрытага партыйнага сходу СП БССР**

У заключным слове на нядаўняй нарадзе ў Цэнтральным Камітэце КПСС, на якой абмяркоўваліся задачы партыйнай работы па забеспячэнні галоўных напрамкаў новага этапу перабудовы — дэмакратызацыі ўсяго грамадскага жыцця і радыкальнай эканамічнай рэформы, Генеральны сакратар ЦК КПСС М. С. Гарбачоў сказаў і аб задачах прэсы на сучасным этапе, зазначыўшы, у прыватнасці: «Яе ролю цяжка пераацаніць. Яна заклікана садзейнічаць працэсам дэмакратызацыі, ставіць пытанні, звязаныя з асваеннем эканамічнай рэформы. Пакуль што журналісты слаба асвятляюць і тую, і другую праблемы. Часам з'яўляюцца добрыя артыкулы, але іх яўна недастаткова. Хачу падкрэсліць: работу прэсы на гэтых напрамках нельга аслабляць, неабходна трымаць яе на высокім узроўні. Як і на першым этапе перабудовы, сродкі масавай інфармацыі павінны быць у першых радах, дапамагаць вырашаць новыя задачы. Але цяпер яе матэрыялы павінны быць больш кампетэнтнымі, глыбейшымі, больш аналітычнымі. Са старонак газет і часопісаў, з экранаў тэлебачання чытачы і гледачы чакаюць сур'ёзных роздумаў, напружанасці думкі, сутыкнення розных падыходаў, паказу ўсяго каштоўнага, што ўжо набыта практыкай перабудовы. Уменне і няўменне працаваць, жаданне і нежаданне перабудоўвацца — вось яны, тэмы, якія пастаянна чакаюць свайго аналізу».

Словы гэтыя можна аднесці да пісьменнікаў. І таму, што многія з іх з'яўляюцца пастаяннымі аўтарамі перыядычнага друку, тэлебачання і радыё, выступаючы як публіцысты, і таму, што сама перабудова не можа не хваляваць іх, як работнікаў ідэалагічнага фронту. Працаваць на перабудову, працаваць у імя перабудовы — значыць, адчуваць пульс часу, разумець складанасць і велічнасць задач, якія вырашае партыя разам з народам, даваць цвярозую ацэнку і набыткам, і тым негатыўным з'явам, якія па-ранейшаму, на жаль, яшчэ сустракаюцца.

Менавіта пра гэта ішла гаворка на адкрытым партыйным сходзе пісьменніцкай арганізацыі рэспублікі, які праходзіў у аўторак у Доме літаратара. З дакладам аб рабоце партыйнага бюро па кіраўніцтве перабудовай у Саюзе пісьменнікаў БССР выступіў сакратар партбюро **В. Гігевіч.** Дакладчык расказаў, як працавалі асобныя члены партыйнага бюро ва ўмовах дэмакратыі і галоснасці, спыніўся на шэрагу найбольш значных мерапрыемстваў, гаварыў аб партыйнай вучобе і шэфскай рабоце, прааналізаваў дзейнасць партыйных груп перыядычных выданняў СП БССР, Дома літаратара.

Сёлета, працягваў дакладчык, у жыцці пісьменнікаў было шмат падзей, але, думаецца, паваротнай для ўсіх літаратараў стаў пленум СП СССР «Сучаснасць і літаратура», што адбыўся 27—28 красавіка. На ім, як вядома, выступіў і першы сакратар праўлення СП БССР Н. Гілевіч, які па-партыйнаму прынцыпова і востра гаварыў аб праблемах развіцця беларускай літаратуры. Клопат аб яе далейшым развіцці стаў і клопатам партыйнай арганізацыі СП БССР. У час галоснасці і адкрытасці, новай, па-сапраўднаму творчай, спрыяльнай атмасферы пісьменнікі адчулі сваю адказнасць за лёс мовы і літаратуры. Вялікую гаворку пра выкладанне яе ў школе правёў на сваіх старонках «ЛіМ». На адным з партыйных сходаў была падтрымана ідэя Бюро прапаганды мастацкай літаратуры аб актыўным пісьменніцкім удзеле ў жнівеньскіх нарадах настаўнікаў. Матэрыялы і выступленні пісьменнікаў на гэтых нарадах абмеркаваны за «круглым сталом», які праведзены сумесна з Міністэрствам асветы БССР. Аднак далей гаворкі справа не пайшла. На думку В. Гігевіча, нам варта ў бліжэйшы час правесці сумесны партыйны сход з Міністэрствам асветы і Міністэрствам вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі рэспублікі і канкрэтна прааналізаваць стан і выкладанне мовы ў школе, пагаварыць аб ролі літаратуры ў выхаванні юнага пакалення.

Закранаючы розныя аспекты дзейнасці партыйнага бюро, В. Гігевіч зазначыў, што часам яно вымушана было вырашаць другарадныя справы. Трывожыць і тое, што ў апошні час, як ні дзіўна, падае грамадская актыўнасць камуністаў, пісьменнікаў. Нават выступіць на партыйным сходзе для сяго-таго— праблема. Да грамадскай работы неабходна актыўней прыцягваць творчую моладзь. Але ці шмат маладых пісьменнікаў у складзе рэдкалегій часопісаў, у бюро секцый, урэшце, у

(Заканчэнне на стар. 2).

# ШТРЫХІ ДА ПАРТРЭТА «ВОСЕНІ»

**30 лістапада завяршаецца Усесаюзны фестываль мастацтваў «Беларуская музычная восень»**

**Пакуль гэтыя радкі дойдуць да чытача, канцэрты аркестравых і харавых калектываў, салістаў-інструменталістаў і эстрадных ансамбляў, майстроў мастацкага чытання і вакалу дададуць новыя і, мабыць, самыя нечаканыя і адмысловыя штрыхі да партрэта сёлетняга фестывалю. Ды наўрад ці знойдзеш такі чароўны пэндзаль, які зможа намаляваць фестывальную панараму, перадаўшы і каларыт вясковых маршрутаў «Восені», і атмасферу канцэртных залаў — ад Віцебшчыны да Брэстчыны, і фарбы мінскіх афіш...**

**Па традыцыі, цэнтральная канцэртная пляцоўка фестывалю — Беларуская дзяржаўная філармонія — аддадзена гасцям. Выехалі на маршруты «Восені» жыновічаўцы і эстрадная група «Світанак», ансамблі «Кантабіле» і «Верасы»... А ў сталіцы рэспублікі ў першыя дні выступалі Дзяржаўны Малы сімфанічны аркестр СССР (у праграме адкрыцця гучала музыка Д. Шастаковіча, М. Мусаргскага, П. Чайкоўскага, М. Рымскага-Корсакава, С. Пракоф'ева), Дзяржаўны камерны хор Міністэрства культуры СССР (выконваліся канцэрты Д. Бартнянскага). Дарэчы, кіраўнік хору, лаўрэат міжнароднага конкурсу В. Палянскі прапанаваў і цікавую праграму, выкананую з удзелам Мінскага камернага аркестра — Сімфонія № 44 І. Гайдна, Канцэрт для фагота з аркестрам Ф. Данцы (саліст народны артыст РСФСР В. Папоў). Разам з камерным хорам пад кіраўніцтвам дырыжора В. Палянскага мінскія музыканты «чыталі» і складаныя, часам трагічныя па змесце старонкі Чацвёртай сімфоніі А. Шнітке (салісты І. Худалей, А. Рудніцкі, А. Мільто)...**

**Прапануем увазе чытача яшчэ некалькі фестывальных штрыхоў — падборку меркаванняў ягоных удзельнікаў і слухачоў, падрыхтаваную нашым няштатным карэспандэнтам Н. Крывашэевай.**

**Юрый СІМАНАЎ, мастацкі кіраўнік і галоўны дырыжор Дзяржаўнага Малога сімфанічнага аркестра Саюза ССР, народны артыст СССР, прафесар:**

— Наш аркестр самы малады ў краіне, яму яшчэ няма двух гадоў, тым не менш, мы ўжо другі раз прыязджаем у Беларусь на «Музычную восень». Прыемна, што ў рэспубліцы сур'ёзна ставяцца да правядзення фестывалю, выдаткоўваюць шмат сіл і сродкаў, запрашаюць цікавыя калектывы, вядомых музыкантаў. Гэта дае магчымасць публіцы слухаць добрую музыку ў добрым выкананні. Крыўдна толькі, што пры адсутнасці білетаў у касе —зала няпоўная. Таму перабольшаная ўвага да адкрыцця, яго ўрачыстасць, на жаль, не радавалі. Напэўна, сёння патрэбны не столькі фестывалі (яны ўсё-ткі парадныя), колькі штодзённая работа па выхаванні публікі, далучэнні яе да культуры, да музыкі. Сур'ёзнае мастацтва само па сабе стварае атмасферу свята.

Мы выступілі з двума канцэртамі ў Мінску і з гэтай жа праграмай—у Віцебску. Можа, пры падрыхтоўцы наступных фестываляў мэтазгодна скарыстаць вопыт Уфы, Петрапаўлаўска-Камчацкага, дзе мы нядаўна выступалі. Там вялікім аркестрам плануюць прыкладна такую ж колькасць канцэртаў ці нават больш, але ў адным горадзе. Гэта дазволіць паказаць больш розных праграм, а цікавасць публікі ад канцэрта да канцэрта ўзрастае...

Фестываль фестывалем, але добра, калі ў зале заўсёды пастаянная музычная тэмпература і такія чулыя, шчырыя людзі, як на Беларусі.

**Людміла ШЛЕГ, кампазітар:**

— Ёсць такая прымаўка: «Калі хочаш, каб цябе паважалі, навучыся паважаць іншых». Чамусьці славутая гасціннасць беларусаў часам ставіць іх у такое незайздроснае становішча, калі, паважаючы іншых, яны перастаюць (ці дазваляюць) не паважаць сябе...

Гляньма на мінскія афішы так званай «Беларускай музычнай восені». Як кажуць, аднаму богу вядома, чаму яна так называецца, бо ні ў канцэрце камернай, ні ў канцэрце сімфанічнай, ні харавой музыкі нават намёку няма на творы беларускіх аўтараў. Канцэртная сцэна Мінска прадастаўлена рускаму, румыну, украінцу, армяніну, літоўцу... Вядома, і выканаўчыя сілы Беларусі ўдзельнічалі ў музычным фестывалі, але пераважна — не ў сталіцы рэспублікі і пераважна не з беларускім рэпертуарам.

У той жа час радасна адзначыць — у канцэртную праграму Літоўскага камернага аркестра побач з творамі Баха, Моцарта, Векерлоні была ўключана і літоўская музыка. Затое ў канцэрце Мінскага камернага гучалі творы Гайдна, Данцы, Шнітке і — абышлося без беларускіх аўтараў.

У праграме сёлетняга фестывалю аўтарскі канцэрт народнага артыста БССР Д. Смольскага — нечаканае і прыемнае рыключэнне, але ён, тым не менш, надвор'я ў агульнай атмасферы не робіць.

Не першы год праўленне Саюза кампазітараў БССР намагаецца адстаяць свае правы (перад Міністэрствам культуры БССР і падпарадкаванай яму філарманічнай арганізацыяй) у гэтым пытанні, але...

На мой погляд, у афішу «Беларускай музычнай восені» можна і варта ўключаць тыя творы беларускіх кампазітараў, якія паводле аб'ектыўных прычын не змаглі трапіць у канцэртную праграму «Мінскай вясны».

**Людміла ІВАНОВА, лаўрэат усесаюзнага і міжнароднага конкурсаў (Масква):**

— Я ўпершыню ўдзельнічаю ў «Беларускай музычнай восені». Глыбока пераканана, што такія фестывалі неабходны: яны творча ўзбагачаюць. Летам мне давялося быць на музычным фестывале ў Казахстане. І вось—Мінск, да якога ў мяне стаўленне самае трапяткое. Тут у 1981 годзе на X Усесаюзным конкурсе вакалістаў імя Глінкі я атрымала першую прэмію. У зале, дзе прыйшло першае прызнанне, у канцэрце, які адкрыў свята музыкі, я зноў выйшла на знаёмую сцэну. Хвалявалася не менш, чым тады, пад час конкурсу.

У мяне адчуванне, што з Мінскам не расставалася. З ім звязана шмат успамінаў, у мяне тут сябры і яшчэ... беларуская музыка, якую шчыра палюбіла. У сольных канцэртах выконваю беларускія народныя песні, рамансы Льва Абеліёвіча. Да XII Сусветнага фестывалю моладзі і студэнтаў у Маскве падрыхтавала «Іспанскі трыпціх» Дзмітрыя Смольскага і лічу, што ён упрыгожыў мой рэпертуар.

Вельмі хачу прыехаць у Беларусь з сольнымі канцэртамі, каб мець магчымасць выканаць тое, што створана, народжана вашым народам, зямлёй вашай.

**Віктар ЛЕБЕДЗЕЎ, заслужаны артыст БССР:**

— Адношу сябе да тых людзей, каго восень сама па сабе не радуе, і толькі дзякуючы «Беларускай музычнай восені» вось ужо каторы год я як слухач атрымліваю імпульс творчай энергіі, зарад бадзёрасці. Перакананы, такі фестываль неабходны людзям розных узростаў. Радасна, што на адкрыццё «Восені» запрасілі аднаго з самых яркіх нашых дырыжораў—Юрыя Сіманава, канцэрты якога стараюся не прапускаць. І ў цэлым праграма дастаткова разнастайная, як кажуць, на ўсе густы. Шкада толькі, што арганізатары не ўсё прадумалі, таму некаторыя цікавыя канцэрты праходзілі без аншлагаў. Бо такі «музычны вернісаж»—падзея для горада. Значыць, і ўвагі ён вымагае асаблівай, і рэкламы. Цяпер шмат гавораць пра пошук новых, лепшых форм. Нашай «Музычнай восені»—чатырнаццаць гадоў. Не ведаю, што можа быць лепш.

**Ігар АЛОЎНІКАЎ, лаўрэат міжнароднага конкурсу, заслужаны артыст БССР:**

— Сёлетні фестываль «Беларуская музычная восень» для мяне не першы. Праўда, раней даводзілася выступаць не ў Мінску, а ў Магілёўскай вобласці, магчыма, таму асаблівых уражанняў не засталося. Былі звычайныя канцэрты, на якіх не адчувалася атмасфера свята. Ствaралася ўражанне, што на месцах мала хто ведаў пра «Беларускую музычную восень», чаму і навошта яна праводзіцца. На жаль, зацікаўленых у правядзенні фестывальных канцэртаў людзей я тады не сустракаў. А ў Мінску, відаць, заўсёды гучыць сапраўды святочная мелодыя «Восені».

Такі фестываль актывізуе канцэртнае жыццё, да нас з'язджаюцца музыканты краіны, ды і ўвага грамадскасці павышаецца. Няхай будзе шмат добрых канцэртаў і менш дэкору. Магчыма, варта пашырыць рамкі гэтага фестывалю, запрашаць замежныя калектывы і выканаўцаў. Каб яшчэ больш адчувалася розніца паміж «Мінскай вясной»—святам музыкі нашай рэспублікі—і «Беларускай музычнай восенню»—усесаюзным фестывалем, які дае шырокую магчымасць запрасіць самых розных гасцей і даведацца, што ж робіцца ў мастацтве за межамі нашай рэспублікі.

Для мяне фестываль пачаўся ў Мінску: у камернай зале філармоніі прайшоў арганна-клавесінны канцэрт, які для сябе я назваў «Ад вытокаў». Гэта першы з цыкла канцэртаў, прысвечаных фантазіям для клавішных інструментаў. Цыкл разлічаны на два гады. Першы, фестывальны канцэрт прымеркаваны да 50-годдзя нашай філармоніі. У ім прагучалі фантазіі Баха, Пёрсела, вядомая «Храматычная фантазія» Свелінка. Наступныя мае сольныя выступленні—на Брэстчыне.

# ПРАЦАВАЦЬ НА ПЕРАБУДОВУ, ПРАЦАВАЦЬ У ІМЯ ПЕРАБУДОВЫ

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1).

прэзідыуме праўлення СП БССР? Можа, хопіць выбіраць у гэтыя органы «ганаровых» работнікаў? Клопат пра маладых літаратараў, працягваў дакладчык, яшчэ не стаў галоўным клопатам, галоўнай задачай сакратарыята, партбюро. З аднаго боку, ёсць пэўныя намаганні сакратарыята творчых секцый па ажыўленні гэтай работы. Напрыклад, пры СП БССР створана Таварыства маладых літаратараў. Але ці лагічна гэта? Мо такое таварыства лепш было б стварыць пры якім-небудзь маладзёжным часопісе ці газеце?

Прамоўца закрануў таксама пытанні работы творчых секцый, гаварыў аб неабходнасці штогадовай справаздачы сакратароў праўлення СП БССР, наладжванні нармальнай атмасферы ў Бюро прапаганды мастацкай літаратуры, вырашэнні жыллёвай праблемы.

Рэдактар часопіса «Беларусь» **А. Шабалін,** які першым выступіў у спрэчках, гаварыў аб неабходнасці ўзняць на новы ўзровень часопісную публіцыстыку. Пакуль яна часцей ідзе ўслед за падзеямі, а не апярэджвае час, не высвятляе шлях наперад. Але тлумачыць гэта адной толькі інертнасцю рэдактуры ці работнікаў аддзела публіцыстыкі часопіса было б несправядліва. Даводзіцца адольваць не толькі сваю ўласную інертнасць, але і пэўную інертнасць аўтараў з ліку журналістаў і пісьменнікаў, а, калі хочаце, і інертнасць грамадскай думкі. Некаторыя пісьменнікі, да якіх даводзіцца звяртацца, часта знаходзяць «аб'ектыўныя», як кажуць, адгаворкі, абы адмовіцца выканаць рэдакцыйны заказ. Адмаўляюцца не таму, што не хочуць ці не маюць часу выказацца, а па той прычыне, што чалавек проста не ведае, што яму сказаць па тым ці іншым грамадсказначным пытанні. Адарвана, на жаль, пэўная частка пісьменнікаў ад жыцця, ад рэальных праблем нашай эканомікі і культуры, ад духоўных праблем грамадства. Мы шмат гаворым сёння пра бюракратыю і бюракратаў. Лічым, што гэта нейкая фізічна адчувальная праслойка людзей, якая праўдамі і няпраўдамі сцвердзілася ў нашым грамадстве. Мне думаецца, сказаў А. Шабалін, што паняцце бюракратыі куды глыбей. Гэта — маральная з'ява, гэта — стан душы, гэта — сродак існавання асобных індывідуумаў. І таму інертны, абыякавы да жыцця народа пісьменнік — таксама бюракрат.

Дапамагчы пісьменніку вызначыць сваё месца ў літаратурным працэсе заклікана літаратурная крытыка, зазначыў **І. Новікаў.** Яна аб'ектыўным вокам павінна ацаніць напісанае і сказаць аўтару праўду пра яго твор. Сказаць прынцыпова, спакойна, доказна. Такой хацелася б бачыць і атмасферу ў нашай творчай арганізацыі, атмасферу, якая спрыяла б стварэнню добрых, таленавітых, цікавых твораў. На жаль, заклікаў да стварэння яе хоць адбаўляй, але практыка не адпавядае заклікам. Ёсць нешта іншае, чаму я пакуль што не знайшоў дакладнага азначэння. Напрошваецца новы тэрмін: крэслапаклонніцтва.

**Г. Каржанеўская** гаварыла пра нездаровыя адносіны да крытыкі ў пісьменніцкім асяроддзі. Варта «ЛіМу» змясціць адмоўны водгук на чыюсьці кнігу, як пакрыўджаны аўтар пачынае асаджаць рэдакцыю званкамі, пісаць абвяржэнні і збіраць «каралеўскую раць» сабе ў падтрымку. На жаль, на першы план падчас выступае «гонар мундзіра», а не інтарэсы навукі ці літаратуры. Значная частка яе выступлення была прысвечана недахопам у рабоце Бюро прапаганды. У заключэнне Г. Каржанеўская выказала сваю заклапочанасць дзейнасцю — а дакладней бяздзейнасцю — секцыі паэзіі, у якой зусім хутка адбудзецца справаздачна-выбарчы сход.

Звяртаючыся да артыкулаў А. Салуцкага «Слабыя і моцныя» (часопіс «Наш современник», № 9, 1987) і У. Юрэвіча «Памагаючы перабудове» («Полымя», № 9, 1987), **А. Казловіч** выказаў нязгоду з папрокамі аўтараў гэтых артыкулаў у адрас пісьменнікаў-нарысістаў, публіцыстаў за тое, што тыя занадта часта, маўляў, паказваюць у сваіх творах кіраўнікоў перадавых гаспадарак, замест таго, каб больш звяртаць увагі на простых працаўнікоў. Чаму ж раптам пачалі з'яўляцца кнігі аб лепшых старшынях? І ці раптам? А. Казловіч, дзелячыся фактамі з уласнай творчай біяграфіі, паспрабаваў адказаць на гэтыя пытанні.

**В. Карамазаў,** наадварот, спрачаўся з А. Казловічам, гаворачы, што трэба пісаць не панегірыкі, а ісці шляхам глыбокага мастацкага аналізу. Пра гэта гаварыў і **В. Якавенка,** адзначаючы, што такія кнігі пра старшынь патрэбны.

**В. Супрунчук** як старшыня групы народнага кантролю СП БССР закрануў пэўныя аспекты яе дзейнасці, гаварыў пра тыражную палітыку, паляпшэнне выкладання беларускай мовы і літаратуры ў школе, прапаганду літаратуры сярод чытача.

Было б няблага, заўважыла **В. Аколава,** калі б кожны пісьменнік узяў своеасаблівае шэфства над адной з бібліятэк, школ. Гаварыла яна таксама пра пашырэнне тэматыкі вечароў у Доме літаратара, больш уважлівага стаўлення да некаторых маладых літаратараў.

Пытанні ваенна-патрыятычнай работы былі ў цэнтры выступлення **Л. Прокшы.**

На сходзе выступілі таксама супрацоўнікі апарату СП БССР і Бюро прапаганды **С. Элькінд, С. Точка, С. Дубовік.**

Першы сакратар праўлення СП БССР **Н. Гілевіч,** падводзячы вынікі гаворкі, падкрэсліў, што неабходна больш увагі ўдзяляць рабоце з маладымі пісьменнікамі, змагацца з драбнатэм'ем, шэрасцю ў літаратуры. Так званы застойны перыяд, сказаў ён, крануўся і пісьменніцкай арганізацыі. Цяпер разбуджаны актыўныя творчыя сілы. Пра гэта нельга забываць і літаратарам, бо слова пісьменніка так патрэбна людзям у час перабудовы, далейшай дэмакратыі. Ёсць сотні тэм, і кожны павінен брацца за тую, якая найбольш блізкая яму, якую ён лепш ведае.

На сходзе выступіў з прамовай загадчык сектара мастацкай літаратуры аддзела культуры ЦК КПБ **А. І. Бутэвіч.**

У рабоце сходу ўдзельнічалі загадчык аддзела культуры ЦК КПБ **Я. К. Вайтовіч,** першы сакратар Мінскага гаркома партыі **У. Р. Галко,** сакратар Партызанскага райкома партыі г. Мінска **Г. І. Панфіловіч.**

●

На партыйным сходзе членам партбюро выбраны намеснік галоўнага рэдактара часопіса «Полымя» **Г. Пашкоў.**

На пасяджэнні партбюро **Г. Пашкоў** выбраны сакратаром партыйнай арганізацыі Саюза пісьменнікаў БССР.

**Наш кар.**

**З ПОШТЫ «ЛіМА»**

# ЯК ЗГУБІЛАСЯ «КРЫНІЦА»

### ЛІСТ З КАМЕНТАРЫЕМ

Пайшоў я ў сваё паштовае аддзяленне сувязі № 123, каб падпісацца на новы часопіс «Крыніца». Запоўніў квіток, падаў яго паштовай работніцы. Тая мне і сказала, што часопіса «Крыніца» няма ў каталогу, а ёсць «Родник», які выходзіць на рускай мове. І сапраўды, «Крыніцы» ў каталогу я не знайшоў, не было там пазначана і тое, што «Родник» выдаецца на дзвюх мовах. Таму, як растлумачылі мне на пошце, і падпісваюць толькі на «Родник»...

Не магу зразумець, чаму ж наш «Саюздрук» даў паштовым аддзяленням Мінска такія звесткі? Ці не дзеля таго, каб потым даводзіць, як гэта было нядаўна, што на беларускія выданні чытачы падпісвацца не жадаюць?

**Васіль ХОМЧАНКА,**
**пісьменнік.**

**Атрымаўшы ліст Васіля Хомчанкі, мы вырашылі правесці своеасаблівае даследаванне. Спачатку пазванілі галоўнаму рэдактару часопіса «Крыніца» У. Някляеву, каб высветліць, ці звярталіся ў рэдакцыю чытачы, якім таксама не собіла стаць падпісчыкамі новага выдання. У. Някляеў пацвердзіў, што пэўная блытаніна з падпіскай сапраўды была: замест беларускага выдання паштовыя служачыя спачатку наогул падпісвалі на часопісы з назвай «Родник», якія на рускай мове выходзяць у ...Таджыкістане і Латвіі. Цяпер быццам праблем няма...**

**Але з-за чаго яны ўзнікалі! — пацікавіліся мы ў начальніка гарадскога агенцтва «Саюздрук» П. Кудрэйкі. Як высветлілася, па ўсіх раённых аддзяленнях сувязі і пунктах прыёму падпіскі быў разасланы дадатак да каталога «Газеты і часопісы БССР», дзе паведамляліся індэксы рэспубліканскага выдання на беларускай і рускай мовах. Праўда, удакладніў Павел Міхайлавіч, спаслаўшыся на аб'ектыўныя прычыны, загад і дадатак былі разасланы з вялікім спазненнем, амаль у канцы падпісной кампаніі. Але, дадаў ён, незразумела, чаму падпісчыку было адмоўлена ўжо тады, калі новыя звесткі былі на пошце...**

**Сапраўды, чаму! І мы звярнуліся да начальніка паштовага аддзялення сувязі № 123 Л. Сіманчык. Яна адразу прапанавала назваць прозвішча і адрас нашага чытача, каб падпісаць яго на «Крыніцу». Не разумею, недаўмявала Любоў Адамаўна, з загадам азнаёмлены ўсе нашы супрацоўнікі і ніякіх праблем не магло тут быць...**

**Мы маглі б палічыць інцыдэнт, пра які напісаў нам В. Хомчанка, прыкрай недарэчнасцю. Маглі б, калі б самі не пераканаліся ў абыякавасці некаторых работнікаў, якія па сваіх службовых абавязках павінны прапагандаваць сярод падпісчыкаў новыя выданні.**

**Наш карэспандэнт 9 лістапада вырашыў зайсці ў пункт прыёму падпіскі, што па вуліцы Я. Коласа, 26, каб падпісацца на тую ж «Крыніцу». Перагартаў увесь каталог «Газеты і часопісы БССР», але дадатку з індэксамі «Крыніцы» («Родника») так і не знайшоў. Калі звярнуўся да маладых сувязістак з пытаннем, чаму выданне ў каталогу не пазначана, у адказ на павышанай ноце прагучала: «А што, мы павінны ў кожны каталог іх упісваць! На вас не набярэшся: даведнікі гэтыя ўвесь час крадуць са стала...»**

# ВОСЬ ДЫК ЗНАЁМСТВА...

Можа, сёння, каб быць спеваком, зусім неабавязкова спяваць? Навучыся... трымаць руль матацыкла або, скажам, узбярыся на футбольныя вароты! А што, эфектна, і голас твой мала што значыць—няхай будзе ён горшы ці лепшы. Ці, скажам, каб быць беларускім спеваком, зусім неабавязкова спяваць па-беларуску...

Мабыць, так і разважалі ў Галоўнай рэдакцыі музычных праграм Беларускага тэлебачання, калі рыхтавалі канцэртную праграму «Давайце пазнаёмімся» з удзелам маладых беларускіх выканаўцаў (прэм'ера яе адбылася 8 лістапада). Бо дзе ж яны, беларускія выканаўцы? Перадача—з Мінска, а на роднай мове не прагучала за гадзіну ніводнага беларускага тэксту, не «прабіўся» да гледача ніводны спявак з беларускай песняй.

Быць жа таго не можа, што перавяліся ў нас выканаўцы, якія б не цураліся, а шанавалі меладычнае роднае слова...

На экране—«Сябры». Маладымі, праўда, выканаўцаў не назавеш, але яны ж спяваюць па-беларуску, павучаць маладых,—так думалася, калі выйшаў знаёмы ансамбль. Толькі не заспявалі і яны на роднай мове.

Салістка Л. Парамонава капіравала Алу Пугачову, баючыся адысці ад знаёмага вобраза хоць бы на паўкрока. Т. Арлоўская прадэманстравала віртуозную язду на матацыкле. Мы, тэлегледачы, рады за яе. Але вось толькі і Таццяну беларускай спявачкай не назавеш. Як і таго выканаўцу, што ўяўляў сябе Высоцкім і басіў ля адчыненага акна...

Чым толькі ні спрабавалі здзівіць гледачоў у музычнай перадачы «Давайце пазнаёмімся»: тут і кацярок рассякае водную роўнядзь, і трактар, быццам элемент нейкай кампазіцыі да песні, і матацыкл... Аднаго не было—беларускай песні, а больш дакладна—песні на роднай мове.

Прыгадалася і другая музычная перадача, прысвечаная творчасці юных, — «Чырвоныя гваздзікі» (апошні тур яе давялося паглядзець на дзень раней—7 лістапада). І тут беларуская песня—на становішчы сірацінкі-Папялушкі. Нездарма ж пісьменнік Артур Вольскі пры падвядзенні вынікаў заключнага тура «Чырвоных гваздзікоў» выказаў сваю заклапочанасць тым, што беларуская песня гучыць надта рэдка, і пажадаў, каб пры падрыхтоўцы такіх перадач-конкурсаў звярнулі на гэта ўвагу.

І мы, тэлегледачы, далучаемся да такога пажадання: прапагандаваць песню на роднай мове трэба, прычым—сур'ёзна.

**Л. АНОШКІНА,**
**настаўніца беларускай мовы і літаратуры СШ № 7,**
**член Саюза журналістаў СССР.**

г. Магілёў.

# ЦІ НЕ СТВАРЫЦЬ ТАКІ ТЭАТР?

Прымаючы ўдзел у падрыхтоўцы аднаго з нумароў святочнага канцэрта, прысвечанага 70-годдзю Вялікага Кастрычніка, я меў магчымасць пазнаёміцца з многімі народнымі харамі і танцавальнымі ансамблямі. Уразіла: які шчодры наш народ на таленты! І ў мяне з'явілася такая думка: а ці не варта стварыць у Мінску тэатр народнага танца і песні, на такіх жа прынцыпах, як нядаўна адкрыты ў Маскве Тэатр Дружбы народаў? Прапаную абмеркаваць гэтае пытанне на старонках штотыднёвіка.

На мой погляд, спектаклі такога тэатра можна было б наладжваць у цудоўных мінскіх палацах культуры, залы якіх часта пустуюць. Штат работнікаў, відаць, патрэбен невялікі: галоўны рэжысёр, галоўны мастак, пастановачная частка і адміністрацыйна - фінансавая група. Прафесійныя калектывы, такія, як Акадэмічны народны хор БССР, Дзяржаўны ансамбль танца БССР, «Харошкі», «Свята» і лепшыя самадзейныя калектывы рэспублікі могуць выступаць у гэтым тэатры з «сольнымі» спектаклямі. Меншыя па маштабе (але таксама значныя па мастацкіх якасцях) калектывы, відаць, можна аб'яднаць у адным спектаклі. У рэспубліцы ёсць цудоўныя дзіцячыя калектывы. Чаму б і іх не далучаць да ўдзелу ў спектаклях? Зрэдку можна было б наладжваць і вялікія масавыя прадстаўленні ў Палацы спорту.

Між іншым, каго запрашаць, колькі каму даваць спектакляў, дзе іх ставіць і г. д., павінна вырашаць мастацкае кіраўніцтва будучага тэатра.

Думаецца, што стварэнне тэатра народнага танца і песні адыграе велізарную ролю ў эстэтычным выхаванні розных пакаленняў гледачоў.

**Вячаслаў ЗЯЛЕНІН,**
**дацэнт Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі.**

# КАТОК—ЗАЛАТЫ ЛАБОК

**Вымусілі мяне напісаць вам гэты ліст дзве сустрэчы з адным чалавекам.**

**Першая адбылася ў сталічным магазіне «Кадр». Гэты чалавек быў з тых, на каго міжволі звяртаеш увагу, і калі потым сустракаеш зноў, абавязкова пазнаеш. Тады ў «Кадры» ён купіў палову (!) партыі фотапаперы, якая чамусьці апошнія месяцы была ў дэфіцыце, з прадаўцамі гаварыў на «ты».**

**І вось нечакана — другая сустрэча. Яна адбылася ў падземным пераходзе ля чыгуначнага вакзала. Там, прымасціўшыся на зэдліку, расклаўшы перад сабой свае «мастацкія творы» (пераважна сібірскай пароды, малых і вялікіх, вусатых катоў), мой чалавек бойка гандляваў.**

**Людзі спыняліся, некаторыя куплялі. Нехта звяртаў увагу на слабую якасць пераздымкаў. Але на гэта наш герой не зважаў. Раз-пораз ён хаваў «заробленыя» рублі ў кішэню, і ўсё новыя партыі пушысцікаў з'яўляліся на століку. Упэўнены выгляд і выраз твару нібыта гаварыў — закон на маім баку.**

**Так, сапраўды, ёсць такі закон. Мае чалавек дазвол, працуе, мае права прадаць. Але, на мой погляд, варта бачыць і іншы бок медаля. Я маю на ўвазе выхаванне мастацкага густу, калі не густу, то хоць нейкага разумення мастацтва ў такіх вось гандляроў. Мяркую, катамі гэтага не зробіш.**

**Зараз нам неабходны добрыя ілюстраваныя выданні, як мага таннейшыя, разлічаныя не на вузкае кола людзей. Трэба шырэй выстаўляць маладых мастакоў, у арганізаваным парадку праводзіць выстаўкі-продажы твораў, хай гэта будуць і фотаздымкі, але яны павінны быць мастацкімі. Яшчэ можна шмат што зрабіць у гэтым напрамку. Пачуццё прыгожага, безумоўна, узбагачае чалавека. Не лішне напомніць, што перабудова — гэта барацьба за чалавека, за лепшае ў ім.**

**В. АСАДУЛІН,**
**студэнт Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя М. Горкага.**

**НА ТЭМУ ДНЯ**




**Нядаўна сакратарыят Саюза тэатральных дзеячаў БССР паставіў кропку (апошнюю, хочацца спадзявацца) у канфліктнай сітуацыі, якая вось ужо паўтара года выспявала ў Гомельскім абласным драматычным тэатры. Уважліва і ўсебакова прааналізаваўшы становішча, кіраўніцтва творчага саюза прыйшло да вываду, што галоўны рэжысёр тэатра Г. Прымак займаемай пасадзе — не адпавядае і мусіць пакінуць калектыў.**

**Прынятая мера — вымушаная, але, безумоўна, крайняя. Будзем шчырыя, няхутка гомельскі тэатр пераадолее глыбокі крызіс, нялёгка дасца магчымасць нармальна працаваць, і невядома калі яшчэ знойдзецца выйсце з арганізацыйнага і творчага тупіка.**

**Згадаў «гомельскую гісторыю» як выпадак надзвычайны. Але ж сёння — і гэта ўжо не сакрэт — тэатральная сітуацыя ў рэспубліцы тоіць значную небяспеку канфліктаў, якія ўсё цяжэй і цяжэй будзе стрымліваць межамі спрэчак творчых (натуральных для плённага развіцця тэатра). Перад намі паўстала невясёлая перспектыва займець неўзабаве некалькі мясцовага маштабу «мхацікаў» — і мы іх займеем, калі самую сур'ёзную, самую пільную ўвагу не нададзім аздараўленню атмасферы, у якой існуе наш тэатр.**

**Відавочна, што унікальнае фарміраванне СТД — канфліктная камісія — літаральна «асуджана» на актыўную дзейнасць. У яе склад увайшлі людзі аўтарытэтныя — народная артыстка СССР Т. Ніжнікава (старшыня), народны артыст БССР А. Ляляўскі, заслужаны артыст рэспублікі А. Ткачонак, кандыдат мастацтвазнаўства Т. Арлова, заслужаны дзеяч культуры БССР І. Міхалюта, акцёр-купалавец М. Федароўскі. Таму нельга сумнявацца ў кампетэнтным разглядзе любой спрэчнай праблемы.**

**Таксама відавочна, што серыяй «хірургічных аперацый» справу не палепшыш, як і ўшчуваннямі, выпраўленнем тэатральных нораваў (увогуле самы марны і няўдзячны занятак) — найперш патрэбен удумлівы аналіз, калі хочаце, развітое «канфліктазнаўства».**

**Думаецца, вялікай памылкай будзе напружанасць, якая выразна апошнім часам акрэслілася па лініі «творчыя калектывы — мастацкае кіраўніцтва», аднесці да выдаткаў працэсу пашырэння дэмакратызацыі і галоснасці. Не трэба падманвацца, мы здаўна ўрабляем глебу для сённяшніх канфліктаў — прыкрай непавагай да таленту, неабцяжаранасцю свежымі ідэямі, творчай нестабільнасцю, існаваннем у вельмі звужанай сістэме духоўных каардынат, тым, што на мове колішніх антрэпрэнёраў звалася «шмат амбіцыі, ды мала амуніцыі»...**

**«Наша жыццё грубае і бруднае.**

**Вялікае шчасце, калі чалавек на ўсім неабдымным свеце адшукае дом, пакой альбо квадратны аршын, дзе ён мог бы хоць часова аддзяліцца ад усіх і жыць лепшымі пачуццямі і памкненнямі душы. Гэтым чыстым месцам для царкоўнаслужыцеля можа служыць алтар ці прастол, для прафесара — гэта універсітэт, аўдыторыя ці кабінет, для вучонага — яго бібліятэка, рабочы пакой ці лабараторыя, для мастака — яго студыя, для пяшчотнай маці — дзіцячы пакой, для акцёра — тэатр і сцэна. Здавалася б, гэтыя святыя месцы трэба беражліва ахоўваць ад усялякага бруду дзеля сваіх жа ўласных радасцей. Нельга іх заплёўваць і брудзіць. Наадварот. Туды трэба несці ўсё лепшае, што захоўваецца ў душы чалавека.**

**У тэатры і паміж акцёрамі, на здзіўленне, сустракаецца адваротнае. Яны нясуць у тэатр усе кепскія пачуцці і брудзяць і заплёўваюць тое месца, якое дзеля іх жа шчасця павінна застацца чыстым, а пасля самі дзівяцца з таго, што тэатр і мастацтва перастаюць уздзейнічаць на іх узвышана.**

**Усё гэта адбываецца з-за адсутнасці мастацкай дысцыпліны. Перад усім яна павінна выхоўваць у акцёра пашану да месца і павагу да сваёй справы. Нельга пляваць у алтары і пасля маліцца там жа на запляванай падлозе».**

**Не ўстрымаўся, каб цалкам не падаць гэтую занатоўку з запісных кніжак К. С. Станіслаўскага, датаваную прыблізна 1907 годам, — «Пра чысціню стаўлення да тэатра». Чаму ж менавіта гэтую! Так, у спадчыне вялікага рэфарматара рускай сцэны тэатральнай этыцы («правільнай гігіене» для талента) увага надаецца ці не першаступенная. Тут багатая спажыва для роздуму — усім, хто далучаны да тэатра: ад служыцеля, які правярае білеты, да рэцэнзента, які спяшаецца выплеснуць на газетныя старонкі свае пасляпрэм'ерныя ўражанні.**

**А згаданыя радкі... У іх, акрамя сцісла выкладзеных этычных поглядаў Станіслаўскага, чуваць інтанацыі, якія не дазваляюць запаветы тэатральнага мудраца ўспрымаць адцягнена. У дачыненні да ржы, што точыць храм тэатра знутры і звонку, чуваць у гэтых словах — гранічнае непрыняцце, роспачнае абурэнне і нават... злосць.**

**Прынамсі, можна багата цытаваць выказванні іншых знакамітых дзеячаў тэатра — нашых сучаснікаў, якія сёння заклапочаны шукшынскім пытаннем-перасцярогай: «Што з намі адбываецца!» Нешта ж відавочна разладзілася, калі не на падмостках сцэны, а ў паўсядзённым жыцці творчых калектываў выбухаюць калізіі, нібыта пазычаныя з п'ес «вытворчай тэматыкі»; калі з сутыкнення непрымірымых груповак высякаецца энергія, вартая лепшага скарыстання; калі словы «выказаць недавер» у пратаколах тэатральных прафсаюзных сходаў сустракаюцца часцей, як у карэспандэнцыях журналістаў-міжнароднікаў...**

**Андрэй ГАНЧАРОЎ.**

## ПРАБЛЕМЫ МЕРКАВАННІ

*Я. І. ЧАЗАЎ, акадэмік, міністр аховы здароўя СССР: «Найбольш сур'ёзная абстаноўка склалася ў г. Наваполацку, дзе валавы выкід шкодных рэчываў самы высокі сярод гарадоў рэспублікі... Так, напрыклад, у Наваполацку адзначаецца тэндэнцыя да росту захворванняў насельніцтва, у тым ліку, агульнага захворвання дзяцей. Колькасць анкалагічных захворванняў узрасла ў 1986 годзе ў параўнанні з 1980 годам у 5,2 раза».*

**(З даклада на рэспубліканскім сходзе партыйна-гаспадарчага актыву ў верасні 1987 г.).**

*З. БУДРЭВІЧ, намеснік галоўнага інжынера па вытворчасці Наваполацкага завода бялкова-вітамінных канцэнтратаў (БВК): «Мы не хаваем, чым наш завод уздзейнічае на экалогію горада. У асноўным, невялікай колькасцю бялковага пылу, і вось гэты самы бялок здаецца некаторым недасведчаным людзям нават радыёактыўным. Так, так, і такія абсурдныя сцвярджэнні нам даводзіцца слухаць. А чалавек жа ў быце пастаянна кантактуе з бялком у той ці іншай яго форме. І не бачыць у гэтым для сябе небяспекі».*

*КАР.: «Але ж бялок завода БВК не звычайны, яго прадуцыруюць мікраарганізмы. І людзі ўстрывожаны...»*

*З. БУДРЭВІЧ: «Адзінае, што ў гэтай справе непакоіць недасведчанага чалавека — здабываемы з нафты парафін, на якім вырошчваюцца мікраарганізмы. Сапраўды, нафта ёсць нафта...»*

*І. ШАЙНІКАЎ, намеснік галоўнага інжынера па ахове прыроднага асяроддзя: «Людзям здаецца, што гэтыя мікраарганізмы хмарамі лётаюць над Наваполацкам. Нічога такога няма і не было. Яшчэ ніводнага разу мы не зарэгістравалі жывы мікрарганізм над горадам. Іншы раз гэта ўдаецца зрабіць на самім прадпрыемстве, у цэхах, але рэдка. Што тычыцца бялковага пылу, дык не даказана, што ён з'яўляецца прычынай захворванняў... Тое, што бялок, распадаючыся, мае невыносны пах, — яшчэ не прычына для боязі».*

**(З пасяджэння «круглага стала» газеты «Химик» (г. Наваполацк).**

***К. РАДЗІШЭВІЧ, намеснік галоўнага ўрача Наваполацкай гарадской бальніцы: «Як толькі вецер пачынае дзьмуць з боку завода бялкова-вітамінных канцэнтратаў, «хуткай дапамозе» даводзіцца працаваць з вялікай перагрузкай, а ў бальніцы пацыентам з захворваннямі сэрца, органаў дыхання не паспяваем ставіць кропельніцы».***

**(З інтэрв'ю карэспандэнту «ЛіМа»).**

**Міхась ЗАМСКІ**




**● 2 ТОНЫ АТРУТЫ НА ЧАЛАВЕКА. ● «ХУТКАЯ ДАПАМОГА» ПРАЦУЕ З ПЕРАГРУЗКАЙ. ● НЕБЯСПЕЧНЫ БЯЛОК. ● ЧАДЗІЦЬ ЗАВОДСКІ ФАКЕЛ. ● ВЕДАМАСНАЯ АМБІЦЫЯ. ● ЗАБЫЛІСЯ ПРА РУЖУ ВЯТРОЎ. ● САМІ СЯБЕ ШТРАФУЮЦЬ! ● ВЫКІД — ЗАЛПАМ. ● ХТО ЗАКАЗВАЕ МУЗЫКУ. ● ДЗЕЛАВІТАСЦЬ І МІЛАСЭРНАСЦЬ.**

**НАТАТКІ ПУБЛІЦЫСТА**

КАБ не склалася ўражання, што доктар згушчае фарбы, нагадаю адзін дакумент. Гэта даведка камісіі Міністэрства аховы здароўя БССР, у якой аналізуецца дынаміка захворванняў навапалачан. За апошнія тры гады захворванні ў горадзе з часовай стратай працаздольнасці павялічыліся на 10,6 працэнта. У даведцы даецца пералік хвароб, колькасць якіх апошнім часам рэзка ўзрасла. Сярод іх рак, бранхіт і бранхіяльная астма, язва страўніка, хвароба нырак, псіхічныя расстройствы.

Камісія звязвае ўсё гэта са «спалучэннем дзеяння комплексных хімічных рэчываў, якія выкідваюць у паветраны басейн Наваполацка прамысловыя прадпрыемствы».

Па дадзеных мясцовай лабараторыі Гідраметэацэнтра БССР. «ступень забруджвання паветранага басейна ў Наваполацку пры сумеснай прысутнасці сярністага газу, вокісу вугляроду, двувокісу азоту і фенолу, якія даюць эфект сумацыі ўздзеяння, перавышае санітарную норму ў 3,3 раза».

Вось такая экспазіцыя нашага расказу.

Дальбог, я б не здзівіўся, калі б даведаўся, што азонная дзірка знойдзена не толькі над Антарктыдай, як пра гэта паведамлялася ў прэсе, але і над Наваполацкам. Бо разбурэнне азоннага пояса, які ахоўвае планету ад смертаноснага сонечнага радыяцыйнага абпраменьвання, — вынік, на думку вучоных, забруджвання атмасферы прамысловымі выкідамі. Накont «дзіркі» над Наваполацкам аўтар жартуе? Але ж, ведаеце, ніхто не правяраў... Там, на Антарктыдзе, працуюць навуковыя экспедыцыі, узброеныя самымі сучаснымі прыборамі, а ў Наваполацку гідраметэаслужба пра іх можа толькі марыць. У выніку, тут не ў стане «злавіць» многія вельмі шкодныя рэчывы, якія невідзімкамі прысутнічаюць у паветры. Вядома, напрыклад, што на «Паліміры» ідзе выкід у паветра, няхай і ў малых дозах, страшэнных атрут — сінільнай кіслаты і фенолу. У гарадскім паветры іх не знаходзяць не таму, што іх там няма, а таму, што, як расказвае загадчык лабараторыі Аляксандра Іванаўна Дунаева, у рэспубліцы яшчэ не распрацавана методыка іх выяўлення ў паветраным басейне. Тое самае можна сказаць і пра бялковы пыл, якім нярэдка даводзіцца дыхаць навапалачанам. Як мы чулі, кіраўнікі завода БВК заяўляюць аб тым, што ніхто яшчэ не даказаў шкоднасць гэтага пылу. Але ж ніхто не даказаў, хачу ім запярэчыць, і яго бясшкоднасць!

Я БЫЎ вельмі абураны рэзка негатыўнай рэакцыяй некаторых маіх субяседнікаў з ліку заводскіх кіраўнікоў на даклад акадэміка Я. І. Чазава, вучонага з сусветным імем у галіне медыцыны, вядомага грамадскага дзеяча. Факты, прыведзеныя ў яго дакладзе, як я ўбачыў, прыйшліся сяму-таму не па нутры, былі ўспрыняты, як замах на ведамасныя інтарэсы, ведамасную, так сказаць, экстэрытарыяльнасць. Мне давялося выслухаць сентэнцыі накшталт: «Не такі страшны чорт, як яго малююць...» «Не трэба сеяць паніку...» «Мы дбаем у першую чаргу пра інтарэсы дзяржавы».

— Дык што гэта за інтарэсы дзяржавы, якія не супадаюць з інтарэсамі 90 тысяч жыхароў Наваполацка? — пытаўся я, а ў адказ на заўвагу, што ёсць шмат скаргаў ад насельніцтва на атручанае паветра, чуў:

— Гэта вы наслухаліся размоў нашых абывацеляў.

Знаёмае тлумачэнне — калі ідзе ў калонах святочнай дэманстрацыі, дык — народ, а калі выказвае незадаволенасць, абавязкова — абывацель.

Помню час, калі ў імя ўяўных «інтарэсаў дзяржавы» да апошняга зярняці выграбалі калгасныя засекі — начальства дэманстравала свой імпэт у выкананні і перавыкананні хлебанарыхтовак, селяніна пазбаўлялі права мець пашпарт, забараняліся кнігі і кінафільмы, музычныя творы і навуковыя працы... Ды многае можна ўспомніць з тых гадоў, калі правілі баль абскурантызм і дэмагогія, зласлівасць і зайздрасць, бюракратызм і ведамасная амбіцыя. Будзем казаць праўду: многае з таго яшчэ жыве. Яно закамуфлявалася, навучылася прымяняць мімікрыю, ды ўсё роўна, з-пад авечай шкуры воўк не-не, а выгляне.

Ведамасная амбіцыя, ведамасны падыход, ведамасны інтарэс, ведамасная экспансія... Хто ў нас самы вялікі пакарыцель прыроды? Ведамства. На яго «пераможным рахунку» — атручаныя воды і забруджанае паветра, знішчаныя лясы і малыя рэкі, затопленыя палі і вёскі.

Хачу тут выказаць адну думку. Гаворачы, пішучы пра здзек з прыроды, мы часцей акцэнтуем сваю ўвагу, калі хочаце, — свой гнеў на эканамічных аспектах гэтай праблемы. І амаль ніколі на тым, як уздзейнічае вынішчэнне прыроднага асяроддзя на здароўе чалавека.

Так, так, не перадаць словамі наша абурэнне замахам на Байкал і Ладагу, нашу тугу, калі гіне пад нажом бульдозера жывапісны пейзаж. І ўсё ж, усё ж... Калі я даведаўся, што ў Наваполацку хварэюць на рак часцей, чым у іншых месцах, і што спецыялісты звязваюць гэта з утрыманнем у паветры канцэрагенных і іншых шкодных рэчываў, дык, дальбог, забыўся і пра звера, якога паменела ў нашых лясах, і пра знявечаныя краявіды. Бо справа тычыцца здароўя чалавека, яго жыцця, каштоўней за што ў свеце нічога няма.

ДВАЦЦАЦЬ гадоў назад пра Наваполацк, будучы горад вялікай хіміі, гаварылася са шматлікіх трыбун, пісалася ва ўсіх газетах. На будоўлю з'ехалася моладзь з усіх куткоў краіны, каб, закасаўшы рукавы, узяцца за ўзвядзенне хімічных гігантаў. Колькі ж было тут рамантыкі! Нават такога яе атрыбуту, як жыццё ў палатках у траскучы мароз. Энтузіязм — гэта, вядома, выдатна. Ды вось толькі праекціроўшчыкі забыліся ўлічыць такую «дробязь», як ружа вятроў. У выніку хімічныя прадпрыемствы ахапілі Наваполацк падковай з паўднёва-заходняга боку, адкуль пастаянна дзьмуць вятры. Калі горад быў пабудаваны, правялі ў бок прамысловага вузла скарасную аўтамагістраль і трамвайную лінію, прасекшы іх проста праз лес. Фактычна атрымаліся дзве аэрадынамічныя трубы, па якіх нават пры невялікім ветрыку выдзьмуваецца ў горад дым. Трэба сказаць і пра тое, што геаграфічна Наваполацк размешчаны ў Полацкай нізіне, дзе ў сярэднім 45 дзён у год з туманамі, а 250 — 255 — са смугой, калі шкодныя дымы не рассейваюцца, а доўга вісяць у паветры.

Могуць сказаць—пасля бойкі кулакамі не махаюць. Заводы ж не закрыеш. Сапраўды, не закрыеш. Гаворка ідзе аб тым, каб паставіць больш моцны заслон атручванню атмасфернага паветра. Можна многае ў гэтым кірунку зрабіць, ды не робіцца.

Завядзі некалі ў міністэрстве гаворку пра ахову прыроды, цябе як след і не выслухаюць, адмахнуцца. Цяпер час іншы, цяпер слова «экалогія» гучыць з самых высокіх трыбун, і чыноўнік, разумеючы гэта, адразу «перабудаваўся». Ва ўсіх яго фінансавых і іншых планах фігурыруюць словы: ахова прыроды. Ён умее, ды як яшчэ ўмее пагаварыць аб тым, як важна зберагчы прыроду для нас і нашых нашчадкаў. Але, часам, за словам, за ўяўнай кіпучай дзейнасцю хаваецца абыякавасць. Праўда, закамуфляваная. Такі прыклад. На кожным з хімічных прадпрыемстваў у Навапалоцку (яны належаць тром саюзным міністэрствам — хімічнай, нафтахімічнай і медыка-біялагічнай прамысловасці) існуюць аддзелы аховы прыроды. Добра, як быццам. Ды вось якая справа. Вы можаце ўявіць вадзіцеля, які за парушэнне дарожных правілаў сам сябе аштрафаваў? Якая аналогія? Работнікі аддзела аховы прыроды знаходзяцца ў штаце прадпрыемства, дзе яны атрымліваюць зарплату і розныя прэміі. Мне сказалі, што гэтым аддзелам дадзены вялікія правы — нават закрыць цэх, які праштрафіўся, подпіс начальніка аддзела абавязковы ў многіх фінансавых і іншых важных дакументах, ад якіх залежаць прэміі, прагрэсіўкі, розныя іншыя выплаты і даплаты. Але ж, не падпісаўшы такога дакумента, ён таксама пазбаўляецца ўсіх гэтых выгод. Дык падпіша, ці не падпіша? Падбіраць на гэтыя пасады толькі прынцыповых людзей? Але ж, адзін раз — прынцыповы, другі раз — прынцыповы, а трэці раз узяў і пайшоў на кампраміс. Не толькі з-за грошай, з-за поўнай залежнасці ад кіраўнікоў прадпрыемства. Заводскія ахоўнікі прыроды, фактычна, вымушаны рабіць толькі тое, што не замінае выконваць прадпрыемству план. Інакш доўга ім на гэтай пасадзе не ўтрымацца.

Каб карэнным чынам узняць якасць прадукцыі, у краіне ўведзена дзяржпрыёмка. Мне здаецца, было б карысным уключыць у кола яе абавязкаў і пытанні, звязаныя з прырода-ахоўнымі мерапрыемствамі ў прамысловасці. «У нашу тэхналагічную эпоху, як сказаў акадэмік В. Лягасаў, «тавар» абавязаны вырабляцца толькі такім спосабам, які апраўданы і эканамічна, і экалагічна, і сацыяльна».

На вытворчым аб'яднанні «Палімір» мяне пазнаёмілі з начальнікам аддзела аховы прыроды Валянцінай Іванаўнай Дадонавай.

— Галоўны інжынер завода нас ва ўсім падтрымлівае, — пахвалілася яна, — кожная мая заўвага тэхнічным работнікам, якія парушаюць інструкцыю па мяжы дапушчальных выкідаў (МДВ) прымаецца да ўвагі. Грубых парушэнняў у нас няма. Праўда, Лідзія Данілаўна? — звярнулася Дадонава да Л. Петрусенка, навапалацкага інспектара па ахове атмасфернага паветра Гідраметэацэнтра БССР, якая прыйшла сюды разам са мной.

Тая няпэўна паціснула плячамі і іранічна ўсміхнулася:

— Будзем хлусіць карэспандэнту ці скажам праўду? А праўда вось якая. «Палімір» у выніку спальвання сульфатных сцёкаў, выкідвае ў паветра чатыры з паловай тысячы тон вокісу серы ў год.

Дадонава ад гэтых слоў аж ускіпела:

— Вы ж ведаеце чаму гэтак адбываецца!

— Ведаю, — спакойна адказала Петрусенка і расказала, што на заводзе сарвана будаўніцтва ўстаноўкі па утылізацыі сульфатных сцёкаў. Паводле праграмы «Ахова прыроды» яна павінна была дзейнічаць ужо ў будучым годзе, а на яе няма яшчэ нават праектнай дакументацыі.

— Будаўніцтва перанесена на 1990 год, — заўважыла Дадонава.

— Я ўпэўнена, што і тады нічога не будзе зроблена, — парыравала інспектар. — Не першы год працую.

Гаспадыня кабінета пачала доўга тлумачыць, што ў затрымцы вінаваты саратаўскі інстытут, што няма на гэта грошай і, маўляў, наогул навука яшчэ не навучылася утылізаваць сульфатныя сцёкі.

Навучылася, не навучылася... Дрэнна, што не навучылася. Мне расказвалі, што японцы, якія на «Паліміры» манціравалі ўстаноўку пад таямнічай назвай «Мапан» для выпуску шклоакрылавых і модаакрылавых валокнаў, у сябе дома маюць тэхніку для ўлоўлівання шкодных выкідаў таго «Мапана». Ці яны нам не прадалі тую тэхніку, ці мы на гэтым вырашылі зэканоміць, але наваполацкі «Мапан» дае унікальны, з пункту гледжання шкоднасці, букет выкідаў у паветра: аміяхларыд, вінілхларыд, канцэрагенны дзіміціфармамід і нават сінільную кіслату, якая, калі я не памыляюся, у гады першай сусветнай вайны выкарыстоўвалася як кампанент баявых атрутных рэчываў.

Вы абураны, дарагі чытач? Вы задаяце традыцыйнае пытанне: «А куды глядзяць...»

(Заканчэнне на стар. 13).

## КНІГАПІС




Р. БАРАДУЛІН. Я. СІРМБАРДЗІС. Мова. Вершы. На латышскай мове. Рыга, «Ліесма», 1987.

**У латышскім выдавецтве «Ліесма» выйшла кніжка двух паэтаў — беларуса Рыгора Барадуліна і латыша Яніса Сірмбардзіса «Мова». Сапраўды, у яе ўключаны вершы пра беларускую і латышскую мовы. Аднак з кожным творам дыяпазон зборніка пашыраецца, бо словы любві да Радзімы, словы дабрыні, падораныя маці, паэты нясуць у свет да іншых людзей, народаў. Слушна піша аўтар прадмовы Я. Сірмбардзіс: «Словы паэзіі заўжды памагаюць будаваць мост дружбы і ўзаемаразумення між плямёнамі. Асабліва між такімі блізкімі суседзямі, як беларусы і латышы...».**

**Невялічкага фармату кніжка, багата і цікава ілюстравана мастаком Маяй Драгунэ. Склаў зборнік Я. Сірмбардзіс.**



А. РАЗАНАЎ. Вандроўны горад. Вершы і паэмы. На грузінскай мове. Тбілісі, «Сабчота сакартвела», 1987.

**Пад грыфам Галоўнай рэдакцыйнай калегіі па мастацкім перакладзе і літаратурных узаемасувязях пры Саюзе пісьменнікаў Грузіі дзесяцітысячным тыражом выйшаў зборнік паэзіі Алеся Разанава «Вандроўны горад» у перакладзе Нугзара Каберыдзе. У ім змешчаны версеты, «Паэма рэха», «Паэма рыбіны», «Паэма жніва», «Паэма сланечніка», а таксама мініяцюры пад назвай «Пункціры». Адметнасцю зборніка і несумненным доказам аператыўнасці грузінскіх выдаўцоў з'яўляецца тое, што версеты А. Разанава яшчэ не выходзілі кнігай на Беларусі.**



А. ЖАЛЯЗОЎСКІ. Чаканне шчасця. Апавяданні. На рускай мове. Масква, «Молодая гвардия», 1987.

**Дваццаць восьмы выпуск бібліятэкі часопіса ЦК ВЛКСМ «Молодая гвардия» за сёлетні год папоўніўся зборнікам апавяданняў Анатоля Жалязоўскага «Чаканне шчасця», перакладзеных на рускую мову аўтарам. Слова пра пісьменніка гаворыць Я. Лецка, які, у прыватнасці, зазначае: «Анатоль Жалязоўскі прайшоў даволі багаты жыццёвы шлях, яго апавяданні прываблiваюць добрым веданнем рэчаіснасці, дынамічным сюжэтам, уменнем пранікнуць у псіхалогію персанажа, адчуць яго жывую душу, раскрыць маральнае стаўленне да жыцця, у першую чаргу вясковага».**

КРЫТЫКА
БІБЛІЯГРАФІЯ

# «НЯМОЕ» СЛОВА ТРЫВОГІ

Ігар ЖУК

*Каждадуб А. Лесавік. Аповесці і апавяданні. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1987.*

ГЭТУЮ, ужо трэцюю па ліку, кнігу здольнага празаіка Алеся Каждадуба склалі дзве аповесці — «Высока сонейка, высока...», «Лесавік» і пяць апавяданняў. За выключэннем «Лесавіка», амаль усе творы ўжо вядомы чытачу, атрымалі пэўны водгук і таму спыняцца на іх спецыяльна няма вялікай неабходнасці. Выкажам хіба асцярожную заўвагу: ці варта прыстойную кнігу дагружаць (правільней — разбаўляць) апавяданнямі, якія самі па сабе і някепскія, але нічога новага не скажуць пра аўтара і слаба звязаны з асноўным зместам? Зрэшты, воля аўтара, што ўключаць у кнігу, але, здараецца, апавяданні выконваюць ролю «нехадавога» тавару-дагрузка, у спадзяванні, што поруч з дабротным чытач спажыве і гэта. Што ж, можна праглынуць моўчкі, шануючы аўтараву волю, можна і прамінуць іх. Але як прамінуць нібы знарокавае прыніжэнне вартасці самога жанру апавядання?.. Пытанне, вядома, узнікла не толькі ад кніжкі А. Каждадуба і адрасуецца не яму аднаму.

Аднак жа пільней прыглядзімся да аповесці «Лесавік», якая і дала назву ўсяму зборніку і якая, відаць па ўсім, рэч далёка не ардынарная ў нашай прозе. Гэты факт прыемна адзначыць таму, што аповесць дае падставу выказаць некалькі думак больш шырокага, агульналітаратурнага плана.

Канечне, справа не ў тым, што А. Каждадуб абраў для сябе вельмі нязвычны літаратурны персанаж — лесавіка, валадара ляснога царства. Многія якасці гэтага героя — рассоўваць зямлю і хаваць вялізныя валуны, хваляваць балотнае азерца, палохаць жывёл і аберагаць іх ад пагібелі і г. д. — цвёрда ўсталяваліся ў свядомасці яшчэ з часу ўпершыню пачутай ці прачытанай казкі. Шмат што ў «Лесавіку» таксама нагадвае літаратурную казку: «...на ім (лесавіку. — **І. Ж.**) ...адзенне не адзенне — валасы, мусіць, але не чалавечыя, нават не звярыная поўсць, а як бы лісце ці трава, — і ён то ўзнікне, то прападзе, і кожны раз крыху іншы — то большы, то меншы, то амаль і не ўбачыш яго, толькі абрысы, глядзіш, як ён каля дрэва пакалыхваецца, з месца сысці не можаш, *валасы твае шэрсткія, патрэскваюць*, а ён чэзне, чэзне—і растварыўся, адно толькі дрэвы трасуцца і зямля гудзе... Людзі, надрыжэўшыся і паляскаўшы зубамі, сабраўшыся з моцаю, заплюшчыўшы вочы, гаварылі: *«Кажыся не воўкам-зверам, не воранам-птахам, не дрэвам іглістым, а такім, як я сам!»*

«Партрэтная характарыстыка» лесавіка прыведзена тут зусім не для ілюстрацыі літаратурнага ўмельства пісьменніка. У мяне асабіста не праходзіць адчуванне таго, што нашай літаратуры, каб зноўку не прыйсці да анамальнай неабходнасці паскоранага развіцця, трэба пэўныя пройдзеныя ўрокі з гісторыі як свае літаратуры, так і літаратуры сусветнай паўтараць, а то і праходзіць нанова.

Узяўшы для сябе адзін урок, урок строгай апісальна-рэалістычнай манеры, добра засвоіўшы яго, мы доўгі час соладка цешылі сябе: якая моцная ў нас, т у т літаратура. Яна і папраўдзе моцная, але—аднабакова моцная. І гэтая аднабаковасць неўзабаве можа стацца шматбаковай паслабленасцю, слабасцю. Пракладваліся ж у нас сцяжынкі шматграннай літаратуры. І калі б на гэтых сцяжынках быў цалкам здабыты багаты плён, то і некаторыя постаці, якія сёння бачацца ў самотнай адзіноце, не свяціліся б дзівосным флёрам загадкавасці, а мелі б пад сабой і вакол сябе багатую і пышную ніву папярэднікаў і наступнікаў. Было б вялікай няпраўдай не заўважаць тых новых спроб і крокаў, якія выявіліся ў апошні час, але крокі гэтыя не заўсёды ўпэўненыя, цвёрдыя. А як нам яшчэ нестае сваёй «драмы-феерыі» накшталт «Лясной песні» ці «Лачплесіса», як нестае свайго «Рускага лесу»!.. Гэта было першае, пра што асабліва востра падумалася пасля прачытання аповесці.

Але і пра іншае падумалася: нязвычнасць створанага А. Каждадубам літаратурнага персанажа — не там, дзе праяўляюцца яго казачныя ўласцівасці, нязвычнасць якраз там, дзе гэтыя ўласцівасці знікаюць, дзе лесавік пазбаўляецца сваёй звышнатуральнай сілы. «Адзіным, чым не валодаў лесавік, з усяго таго, што мог чалавек, гэта моваю». І вось тут акрэсліваецца яшчэ адна, ужо кімсьці прыкмечаная, заканамернасць літаратурнага развіцця. Літаратура, калі трэба было выказаць штосьці вельмі балючае, трывожнае, часта прамаўляла гэта праз блазнаў, дэрвішаў, або, што здаралася часцей,—зусім «нямела». У вусны нямых укладвалася невымоўнае, адзінае, але ўсім зразумелае ў сваёй адназначнасці слова. Асабліва ўражваў сваёй нямой метафарычнасцю быкаўскі Янка Ганчарык са «Знака бяды» — апошні, на кім абрываўся ўвесь род Ганчарыкаў... Ёсць многа прыкладаў і іншых літаратурных «нямых» у нашай беларускай літаратуры...

Думаю, што такі загадкавы, анямелы герой у А. Каждадуба — не выпадковасць. Даўно заўважалася схільнасць пісьменніка надаваць сваім героям, а то і *творам нешта ад паэтычнай* метафары. У свой час крытыка падкрэслівала нават скразную метафарычнасць усёй пабудовы аповесці «Высока сонейка, высока...» У «Лесавіку» ж «нямая» метафарычнасць, суцэльная зона вусцішнага маўчання вакол цэнтральнага персанажа ствараецца за кошт разрыву мастацкага часу: найактуальнейшыя пытанні цывілізацыі «адчужаюцца» маўклівым, архаічным, ажно паганскіх часоў вобразам лесавіка.

Не цяжка заўважыць, што своеасаблівым кампазіцыйным цэнтрам аповесці становіцца купальскае свята. Тры важкія захады робіць пісьменнік да Купалля. Чаму? Таму, што гэтае найстаражытнае і найпаэтычнае свята, свята народнага нацыянальнага духу, суадносіцца аўтарам з пагрозай экалагічнага вынішчэння, вынішчэння яшчэ аднаго свята — прыроды, лесу.

І ўжо амаль не свецяцца купальскія вогнішчы на Беларусі. Няма іх і ў А. Каждадуба. Ёсць слабае водгулле, рэха. Ёсць сум лесавіка, і ёсць сум пісьменніка, які прыгадвае, улоўлівае старажытнае свята як прывід, як мрою, як бляклы абрыс колісь багата ўквечанага народнымі павер'ямі і фарбамі народнай фантазіі найшчодрага выяўлення нацыянальнай душы, народнага духу, мастацкага скарбу народа.

«Лесавік» — элегія, сумная рабінзанада. Толькі рабінзонам выступае ўжо не чалавек. Самотным рабінзонам сярод прыроды, скоранай уладаю ўсюдыіснага чалавека, становіцца адзінокі лесавік. Заўважым: паэтызацыя прыроды — даўняя традыцыя, на якую мы з гонарам указваем, аглядаючы літаратуру. Не сёння з'явіліся і боль і трывога за скораную прыроду. Магчыма, гэта ўжо атожылак новай традыцыі. Ва ўсякім разе, славячы прыроду, паэтызуючы яе, беларуская літаратура ўсё ж заставалася вельмі чуйнай, імкнулася ўхапіць, учуць фальшывую ноту ў звоне пераможных літаўраў. Еднасць героя і прыроды (калі было балюча герою, то балюча было і прыродзе — і наадварот, як, напрыклад, у «Сымоне-музыку») была досыць жыццядайнай крыніцай у беларускай літаратуры. Гэта — відавочная яе якасць: літаратура наша была не толькі «сялянскай», а і «прыроднай» таксама. Вось чаму і дзіўна, што няма ў нас «Лясной песні» ці «Рускага лесу»; што асваенне родавай па сутнасці і вельмі важнай сёння тэмы адбываецца як бы непаслядоўна, прыхапкам, паасобку. І. Пташнікаў і В. Карамазаў, А. Жук і В. Казько па-рознаму, па-свойму цікава, выказвалі думку аб тым, што прырода ад умяшання чалавека ўжо амаль страціла функцыю самарэгуляцыі. Чалавек парушыў натуральныя сувязі ў прыродзе настолькі, што, мабыць, яму толькі і пад сілу іх неяк наладзіць ізноў. Без чалавечага ўмяшання сама прырода можа і не выжыць. Без разумнага, талковага ўмяшання. «Мсціжы» і «Пушча», «Неруш» і «Цвіце на Палессі груша» — гэта ж наша балючае пытанне: а як парушэнне сувязей прыроднага свету адбілася на чалавечай душы?

А. Каждадубу пашанцавала з вельмі прыдатным мастацкім ходам — своеасаблівым сюжэтам рабінзанады. Адзінота ўсемагутнага лесавіка ў яго пракаветных уладаннях падкрэсліваецца настойліва. Але *гэта не проста лесавік-рабінзон.* Гэта яшчэ — апошні лесавік. «Апошні» — таксама падкрэсліваецца настойліва: «Апошнія заўсёды ўжо глядзяць як бы з вышыні, як бы над усім астатнім, як бы ведаючы тое, чаго ніхто ўжо ведаць не будзе...». *«Апошнія, як гэты ястраб, павінны знікаць бясследна».* «Людзям амаль ніколі не было ўласціва пачуццё апошняга. Па-першае, сваю смерць яны ніколі не ўспрымалі канцом свету, бо пакідалі сябе ў сваіх дзецях і ў тым, што зрабілі. Менавіта з-за гэтага, зразумела, яны не глядзелі на сябе, як на апошняга. І гэтак жа яны бачылі ўсё навокол сябе — зямлю, лясы, горы, рэкі, звяроў і рыб, — апошняга нічога не можа быць...» Апошні — як трагічны вынік; апошні — як страта духоўнасці; апошні — як ілюзія ўсемагутнасці.

Не ўстрымаюся яшчэ ад адной цытаты — бліскуча, як мне здаецца, напісанага ястрабавага палявання: «Ястраб сарваўся *з вершаліны*, як стрэліў, ён падаў, нават не набраўшы вышыні, менавіта падаў наўскос, з кожным імгненнем набіраючы хуткасць, і пры самай зямлі, зрабіўшыся ў сваім падзенні амаль нябачнай, нейкай адной суцэльнай палоскай, *маланкай*, пры самай зямлі ястраб ударыў у рудую пляму. Лісіца, адчуўшы смерць толькі ў самы апошні міг, нават не паспела падставіць ёй ашчэраную морду, адно крыху павярнулася бокам, і кіпцюры-корды лёгка прабілі поўсць...»

*На гэтага ястраба* ў сваю чаргу палюе бяздумны юнак, які хоча проста пахваліцца перад сябрукамі зоркім вокам і цвёрдаю рукой. Звернем увагу: нечакана і па-мастацку хораша зроблена ператварэнне рыжай лісіцы ў часе паляўнічай агоніі ў *«рудую пляму»*. Тут — «пляма». Але і юнак цаляе не ў ястраба, а — у «кропку» ястраба. Што гэта? І ў адным, і ў другім выпадку адсутнічае духоўны і душэўны пачатак, застаюцца проста «пляма», «кропка». І мастацкі эфект вяртаецца эфектам чытацкай здагадкі: кожны «апошні» становіцца ахвяраю наступніка — ствараецца кола суцэльнага бездухоўнага «палявання на Апошняга». А элегічны настрой, лад аповесці — гэта толькі вонкавае покрыва драматычнага пытання: на кім жа замкнецца кола гэтага ўсеагульнага безразважнага «палявання»? Ды і ў асноўным пытанні — «...а ці можа чалавек зразумець лесавіка, а лесавік — яго?» — бачыцца зацікаўленасць перш за ўсё аспектам духоўным. У сваю чаргу ў Л. Ляонава востра прагучала папярэджанне: «эрозия почв вызывает эрозию духа...». Глеба пусцее, а што з духам?

Вось і А. Каждадуб лагічны націск ставіць на тым, ці можа чалавек «зразумець»? Ці зможа чалавек разумны, які шмат што пазнаў у свеце, зрабіў безліч найвялікшых адкрыццяў, ці зможа ён своечасова зрабіць яшчэ адно адкрыццё, што і да нашай унікальнай планеты самы час дастасаваць папераджальную шыльду: «Ахоўваецца чалавекам». Дакуль жа сіла розуму будзе працаваць на знішчэнне, разбурэнне, самапавал?

Вядома, пытанні гэтыя некалькі рытарычнага плана. І, вядома, пытанні больш ідуць ад жыцця — аповесць толькі завастрае іх. (Мяне, прынамсі, больш цікавіць: чаму чалавек страчвае ўласцівасць адчуваць прыроду). Але, паўторым, А. Каждадуб якраз акцэнтуе ўвагу на спрадвечнасці пытання, і ў гэтым спрадвечным — чалавеку час ужо і вызначыцца. І, трэба прызнацца, пісьменнік цікава скарыстоўвае магчымасці, прадстаўленыя нязвычнасцю самога героя.

Сапраўды, чаму ў лесавіка няма пастаяннага аблічча, чаму ён знешне такі няўлоўны, не мае выяўных абрысаў? Магчыма таму, што ў рэчышчы народна-паэтычнай традыцыі — надаваць «нячыстай сіле» права на магчымасць пераўвасабленняў. І лесавік у А. Каждадуба пераўвасабляецца то ў куст, то ў вербу, то ўшчамляецца ў дуб, то, нябачны, падсядае да стога сена.

Але ўся справа ў тым, што лесавік у А. Каждадуба якраз наадварот — сіла чыстая, справядлівая, якая яўна супрацiўляецца эгаістычнай чэрстваcці і абыякавасці, злому прагматычнаму пачатку. Чаму ж тады невыяўнасць лесавіковага аблічча?

А таму, што гэта — і зварот да нашага сумлення. Зрэшты, гэта і ты сам, шматлікі чытач.

**(Заканчэнне на стар. 7).**

**СПРЭЧКІ ПАЛЕМІКА**

**Артыкул А. Сідарэвіча «Дапытлівы юнак спытае...», надрукаваны ў «ЛіМе» за 19 снежня 1986 г., выклікаў вялікую цікавасць чытачоў — гісторыкаў, літаратараў, студэнтаў... Сярод іншых водгукаў рэдакцыя атрымала і палемічны адказ двух сааўтараў падручніка «Гісторыя беларускай літаратуры. Старажытны перыяд» кандыдатаў філалагічных навук А. Коршунава і У. Кароткага. Вучоныя, відаць, маюць рацыю, калі аспрэчваюць некаторыя сцвярджэнні А. Сідарэвіча, гавораць пра суб'ектыўнасць асобных момантаў артыкула. Але ўлічваючы той факт, што аўтары адказу — зацікаўленыя асобы і што нельга не падзяліць агульную скіраванасць нататок А. Сідарэвіча, мы даём магчымасць выказацца адначасова абодвум бакам.**

# ДАПЫТЛІВАМУ ЮНАКУ...

ЛЕТАСЬ у канцы года ў «ЛіМе» былі змешчаны нататкі крытыка Анатоля Сідарэвіча «Дапытлівы юнак спытае...» з нагоды выхаду ў свет падручніка для ВНУ «Гісторыя беларускай літаратуры. Старажытны перыяд». Мы не спяшаліся з адказам на гэтае выступленне, бо спадзяваліся, што нехта са спецыялістаў-літаратуразнаўцаў кампетэнтна, грунтоўна выкажацца пра новы падручнік і з веданнем справы, аб'ектыўна яго ацэніць. На жаль, нататкі А. Сідарэвіча і на сёння — адзіны водгук у беларускім друку пра гэтую кнігу, якая выдадзена два гады таму назад. Вось чаму мы, яе сааўтары, вымушаны былі ўзяцца за пяро, каб сказаць колькі слоў і пра сам падручнік і пра выступленне крытыка. Гэта тым больш неабходна, бо гаворка ідзе пра вельмі важныя і прынцыповыя рэчы і выходзіць далёка за межы прыватнай палемікі.

**Новы падручнік па гісторыі беларускай старажытнай літаратуры напісаны вядомымі знаўцамі нашай пісьменнасці даўняй пары В. Чамярыцкім, У. Калеснікам, М. Грынчыкам, А. Мальдзісам. Дасведчаны літаратуразнавец акцэнтаваў бы ўвагу на змястоўнасці новага падручніка, яго адпаведнасці найноўшым навуковым дадзеным, яго літаратурных вартасцях, на глыбіні ідэйна-мастацкага аналізу літаратурных помнікаў, дакладнасці характарыстык буйнейшых пісьменнікаў і на іншых літаратуразнаўчых пытаннях, без чаго немагчыма аб'ектыўная ацэнка працы па гісторыі літаратуры. Аднак усё гэта практычна абыдзена ў нататках нашага крытыка. А. Сідарэвіч, «ничтоже сумняшеся», аб'яўляе падручнік напісаным з устарэлых пазіцый, поўным розных супярэчнасцей і памылковых сцвярджэнняў.**

**Такі агульны і несправядлівы вывад аб усёй кнізе тым больш дзіўны і незразумелы, бо крытык, супярэчачы сам сабе, адначасова прызнае, што яна сведчыць пра несумненныя поспехі нашага літаратуразнаўства ў вывучэнні гісторыі беларускай старажытнай літаратуры, што пераважная большасць яе раздзелаў напісана на добрым узроўні, грунтоўна і цікава. Сапраўды левая рука не ведае, што піша правая.**

Наколькі нам вядома, наш шаноўны крытык ніколі не займаўся даследаваннем гэтай літаратуры. Нягледзячы на гэта, А. Сідарэвіч рашуча рынуўся ў атаку на масцітых аўтараў падручніка. Ён безапеляцыйна сцвярджае, быццам бы новы падручнік не дае дакладнага ўяўлення пра нашу старажытную літаратуру, хаця ніякіх сур'ёзных пропускаў значных імён і твораў ён не адзначае ў сваім артыкуле. Пра што ж тады напісаны 335 старонак гэтай кнігі? Крытык не заўважыў таксама, што ў падручніку нават змешчаны спецыяльны артыкул (стар. 51—55) пра асаблівасці беларускай старажытнай літаратуры.

Свой знішчальны вывад ён спрабаваў абгрунтаваць тым, быццам бы даследчыкі добра і не ведаюць, калі ж скончылася старая беларуская літаратура і пачалася новая, які этап у яе развіцці з'яўляецца пераходным. Аднак пададзеныя А. Сідарэвічам доказы яшчэ раз паказваюць, што ён хоць і прыдзірліва, але даволі павярхоўна чытаў падручнік і сам заблытаўся ў простых пытаннях.

У раздзеле А. Мальдзіса выразна сказана і пераканаўча абгрунтавана, што водападзел паміж старой і новай беларускай літаратурай ляжыць у XVIII ст., калі завяршаўся складаны працэс пераходу ад адной эстэтычнай і жанравай сістэмы да другой. Нідзе ў нашай гісторыі не сцвярджаецца, быццам бы гэты працэс пачаўся ў XVI ст., а гаворыцца пра некалькі іншае. Так, у раздзеле пра літаратуру перыяду Контррэфармацыі сапраўды напісана, што яна з'яўлялася пераходным этапам у развіцці беларускай літаратуры, але не ад старой да новай, а ад царкоўнай да свецкай, што не адно і тое ж. Асобныя з'явы і тэндэнцыі яшчэ не сведчаць пра надыход новай эпохі. Не супярэчыць агульнай канцэпцыі і перыядызацыі беларускай літаратуры, пададзенай у падручніку, і сцвярджэнне В. Чамярыцкага, што ў XVI ст. пачаўся новы этап у яе развіцці, бо даследчык меў на ўвазе новы этап у гісторыі беларускай старажытнай літаратуры.

Наогул жа кожны наступны этап у развіцці літаратуры з'яўляецца новым у параўнанні з папярэднім і ў пэўным сэнсе пераходным. Эпоха Скарыны магла б стаць у поўным сэнсе гэтага слова не толькі пераходным перыядам, а магчыма і пачаткам новай беларускай літаратуры, калі б культурна-гістарычныя ўмовы для яе развіцця былі больш спрыяльныя.

**Вырываючы з кантэксту асобныя выказванні і выразы, нярэдка, адвольна іх падтасоўваючы і перакручваючы, А. Сідарэвіч тэндэнцыйна тлумачыць іх, аб'яўляе супярэчлівымі або памылковымі, а пасля гэтага глыбакадумна робіць вывад пра адставанне ўсяго беларускага літаратуразнаўства.**

**Асабліва ж збянтэжыўся дапытлівы крытык, чытаючы старонкі падручніка, напісаныя аўтарамі гэтых радкоў. Аднак, ён ухіліўся ад канкрэтнай кваліфікаванай гаворкі па сутнасці, ад грунтоўнага літаратуразнаўчага разгляду зместу нашых раздзелаў. Даверыўшыся толькі ўласным абмежаваным уяўленням, і суб'ектыўнаму густу, ён аддаўся з нагоды адвольным разважанням пра асобныя бакі і моманты грамадска-палітычнага і культурнага жыцця Беларусі XVI—XVII стст., якія, паводле яго сцвярджэння, асветлены намі з пазіцый «старой» гістарыяграфіі.**

А. Сідарэвіч абвінавачвае нас у тым, быццам бы мы атаясамліваем нацыянальнае і рэлігійнае, пераацэньваем ролю праваслаўных брацтваў у справе абароны нацыянальна-культурных інтарэсаў беларускага і ўкраінскага народаў. На жаль, яго ўласныя разважанні толькі дадаткова заблытваюць гэтыя не простыя пытанні. Крытык не ўлічвае таго агульнавядомага марксісцкага палажэння, што ў даўнія часы ўсякі грамадска-палітычны рух павінен быў прымаць тэалагічную форму, нярэдка выступаў у рэлігійным адзенні. Таму і не бачыць А. Сідарэвіч палітычнага і нацыянальнага зместу ў брацкім руху (брацтвы для яго — **чыста рэлігійныя** аб'яднанні), таму і выклікае ў яго рашучае пярэчанне наш вывад, што барацьба пад сцягам праваслаўя ў тых канкрэтна-гістарычных умовах у цэлым мела прагрэсіўны, нават нацыянальна-вызваленчы характар.

Пад якім жа сцягам адбывалася тады барацьба супраць польска-каталіцкага наступу на беларускія землі, супраць Брэсцкай царкоўнай уніі (1596 г.), выступленне віцябчан (1623 г.), калі быў забіты яры уніят Іасафат Кунцэвіч? Хіба рэлігійнае пытанне не мела ніякага значэння ў час казацкіх паўстанняў канца XVI—XVII стст.? Хіба абарона веры продкаў, нацыянальных традыцый ад здзеку і гвалтоўнага разбурэння не была адначасова і абаронай чалавечай і нацыянальнай годнасці простага беларуса XVII ст., які быў тады пераважна праваслаўным? Нельга змешваць беларуска-ўкраінскую праваслаўную царкву ў Рэчы Паспалітай XVII ст. з афіцыёзным праваслаўем Расійскай імперыі XIX ст. Шкада, што гэтага не разумее А. Сідарэвіч, які настойліва заклікае не забывацца на класавы падыход. Менавіта гістарычныя факты і класавы падыход прымусілі нас схіліцца да той характарыстыкі брацтваў, якая падаецца і ў «Вялікай Савецкай Энцыклапедыі». Брацтвы, гаворыцца ў гэтым аўтарытэтным выданні, «ствараліся... для барацьбы супраць нацыянальнага прыгнёту і гвалтоўнага акаталічвання рускіх, украінцаў і беларусаў... (яны) змагаліся за нацыянальна-культурную незалежнасць украінскага і беларускага народаў» (Т. 4, с. 8).

Той факт, што праваслаўная царква вызначалася глыбокім кансерватызмам і не была ў эпоху позняга феадалізму носьбітам культурнага прагрэсу грамадства, што праваслаўнае духавенства ў сваёй аснове заставалася абыякавым і да асветы народа і да ўласна нацыянальных праблем развіцця беларускай культуры, яшчэ не дае падставы сцвярджаць, быццам бы барацьба праваслаўных брацтваў супраць польска-каталіцкай экспансіі не мела станоўчага значэння, была гістарычна неапраўданай, антыпатрыятычнай. Хіба перамога польска-каталіцкай рэакцыі выратавала Вялікае княства Літоўскае ад заняпаду, простага чалавека ад цемры і прыгнёту, а беларускую культуру ад паланізацыі? Хіба нацыянальна-рэлігійнае рэнегацтва мясцовай шляхты ў XVII—XVIII стст. спрыяла этнічнай кансалідацыі беларусаў, росту іх нацыянальнай самасвядомасці, росквіту беларускай культуры?

Каб правільна зразумець мінулае, трэба дакладна і грунтоўна ведаць гістарычныя факты і падзеі, глыбока ўнікнуць у іх сутнасць і сэнс, адвольна не трактаваць і не мадэрнізаваць іх, паслядоўна прытрымлівацца канкрэтна-гістарычнага прынцыпу даследавання. У адваротным выпадку можна лёгка скаціцца да такіх выпадкаў, да якіх фактычна схіляецца наш рэцэнзент: ён згодны цалкам апраўдаць пераход М. Сматрыцкага ва уніяцтва і нават гатовы залічыць езуітаў у саюзнікі брацкага руху. Менавіта так, а не інакш трэба разумець словы А. Сідарэвіча, што «царкоўная унія — гэта саюз і сумесная рэакцыя каталіцкай і праваслаўнай царквы на Рэфармацыю і секулярызацыю». Нічога сабе саюз, у якім «саюзнікі» дзесяцігоддзямі зацята біліся да крыві, як непрымірымыя ворагі!..

**Ацэньваючы новую калектыўную працу беларускіх літаратуразнаўцаў па старажытнай літаратуры, неабходна ўлічваць яшчэ дзве важныя акалічнасці. Па-першае, недастатковую распрацаванасць навукай асобных перыядаў і праблем нашага мінулага, гісторыі беларускай культуры даўняй пары. Па-другое, у сціслым падручніку, што ахоплівае восемсот гадоў развіцця літаратуры, немагчыма дастаткова грунтоўна асвятліць усе бакі грамадска-палітычнага і культурнага жыцця Беларусі эпохі феадалізму. Таму несправядліва было б патрабаваць, каб у гэтай працы былі дадзены адказы на шматлікія малавывучаныя, складаныя і нават дыскусійныя пытанні. Асобныя свае заўвагі А. Сідарэвіч павінен быў бы адрасаваць не літаратуразнаўцам, а гісторыкам.**

# ЮПІТЭР, ТЫ СЯРДУЕШ?..

НЕ БУДУ пісаць пра агульную інтанацыю ліста А. Коршунава ды У. Кароткага,—чытач сам яе адчуе...

А. Коршунаў і У. Кароткі пералічваюць аўтараў падручніка «Гісторыя беларускай літаратуры. Старажытны перыяд»: А. Мальдзіс, У. Калеснік, М. Грынчык, В. Чамярыцкі. Бачыце, які салідны шыхт вучоных! А нейкі маладасведчаны крытык, які «ніколі не займаўся даследаваннем» старажытнай беларускай літаратуры, узяў дый «рынуўся ў атаку на масцітых аўтараў падручніка». Паколькі ж найбольш і галоўным чынам я крытыкаваў А. Коршунава ды У. Кароткага, дык на паверку выходзіць, што «масцітыя аўтары» — гэта найперш яны.

Кінуты ж мне закід, што я зрабіў «несправядлівы вывад аб усёй кнізе», вельмі несправядлівы. Хто ўмее чытаць, хай знойдзе такую выснову ў маіх нататках і працытуе яе. Мая левая рука ведае, што піша правая. Станоўча ацаніўшы раздзелы і параграфы, напісаныя М. Грынчыкам, У. Калеснікам, А. Мальдзісам і В. Чамярыцкім, я ўбачыў, што раздзелы і параграфы, напісаныя А. Коршунавым ды У. Кароткім, «не дацягваюць», а таму і не змог далучыць іх да ліку лепшых у падручніку.

А зараз—аб перыядызацыі гісторыі беларускай літаратуры. А. Коршунаў ды У. Кароткі пішуць: «У раздзеле А. Мальдзіса выразна сказана і пераканаўча абгрунтавана...» Стыль выказвання такі, што я, трэба разумець, не маю права падвяргаць сумненню напісанае шаноўным Адамам Іосіфавічам. Але дазвольце, паважаныя апаненты, спытаць: ці не чытаем мы ў кнізе А. Мальдзіса «На скрыжаванні славянскіх традыцый» (с. 45) такі сказ: «Барока з'яўлялася не толькі адмаўленнем рэнесансных традыцый, але і іх працягам»? Ці не чытаем мы на наступнай старонцы тае ж кнігі такое выказванне: «...мае рацыю В. Крэкацень, сцвярджаючы, што барока «паскорыла ва ўсходніх славян працэс станаўлення «новых» літаратур, узбагаціўшы іх пісьменства невядомымі раней тэмамі, сюжэтамі, спосабамі мастацкага адлюстравання, прышчапіўшы славянскай літаратурнай глебе новыя роды і віды славеснай творчасці». «Новы» стыль, такім чынам, адкрываў дарогу да стварэння агульнанацыянальнай літаратуры, дарогу прамую, хоць доўгую і цяжкую». А ці не піша А. Мальдзіс на с. 48 тае ж кніжкі, што рысы барока ўласцівыя творам беларускіх палемістаў, беларускай панегірычна-эпікграматычнай паэзіі першай палавіны XVII ст.? Ці не піша А. Мальдзіс на с. 49, што беларускае барока «ўзнікла і развівалася на хвалі контррэфармацыі»? З гэтых выказванняў ці не можам мы зрабіць колькі высноў? Па-першае, ці не адбываўся ў канцы XVI—пачатку XVII ст. пераход ад рэнесансавай да барокавай культуры? Раз так, то, па-другое, ці ёсць рацыя ў падзеле эпохі барока на два перыяды: канец XVI — першая палавіна XVII ст., другая палавіна XVII — першая трэць XVIII ст.? Ці не было б больш слушна ў адпаведнасці з думкай В. Крэкатня, падтрыманай А. Мальдзісам, лічыць пераходным перыядам ад старажытнай да новай беларускай літаратуры ўсю эпоху барока, г. зн. канец XVI—першую трэць XVIII ст.?

Канцэпцыю А. Мальдзіса ў тым выглядзе, як яна выкладзена ў падручніку, А. Коршунаў ды У. Кароткі называюць агульнай. Дзеля гэтага яны адмаўляюцца ад таго, што напісана ў раздзеле «Літаратура перыяду Контррэфармацыі» самім А. Коршунавым. Чытаем у іхнім адказе:

«Нідзе ў нашай гісторыі не сцвярджаецца, быццам бы гэты працэс (пераход ад старажытнай да новай беларускай літаратуры. — **А. С.**) пачаўся ў XVI ст., а гаворыцца пра некалькі іншае. Так, у раздзеле пра літаратуру перыяду Контррэфармацыі сапраўды напісана, што яна з'яўляецца пераходным этапам у развіцці беларускай літаратуры, але не ад старой да новай, а ад царкоўнай да свецкай, што не адно і тое ж».

У кнізе ж (і гэта я цытаваў у нататках) напісана: «...сінтэзуючы ў сабе сярэдневяковыя і рэнесансавыя ідэі, літаратура перыяду Контррэфармацыі... з'яўлялася пераходным этапам у развіцці літаратуры ад царкоўнай да чыста свецкай... у наступныя стагоддзі». Вось што значыць «забыць» пра тры апошнія словы! Ці мае апаненты спадзяюцца на маю і чытачоў няпамяць? Абрываючы цытату на самым істотным, А. Коршунаў ды У. Кароткі спрабуюць стварыць ілюзію аднадумства ў падручніку.

А ці варта наогул імкнуцца паставіць усе кропкі над «і»? Думаю, што ў нас няма яшчэ поўнае яснасці наконт перыядызацыі літаратуры XVI—першай палавіны XVII ст., бо мы не ўлічваем, у прыватнасці, думку У. Конана аб раннім і познім Рэнесансе на Беларусі, выказаную ім у калектыўнай манаграфіі «Иван Федоров и восточнославянское книгопечатание» (Мн., 1984).

Дарэчы, аўтарамі гэтае кнігі з'яўляюцца таксама А. Коршунаў ды У. Кароткі. Ім, думаю, варта было б пачытаць у гэтым зборніку артыкул доктара гістарычных навук А. Грыцкевіча «Беларусь у часы Івана Фёдарава», каб пераканацца ў тым, што мае погляды на статус Вялікага княства Літоўскага ў складзе Рэчы Паспалітай адпавядаюць поглядам гэтага аўтарытэтнага гісторыка. Што ж да майго сцвярджэння, «быццам бы Вялікае княства Літоўскае захавала ў XVII — XVIII стст. у складзе Рэчы Паспалітай сваю дзяржаўную незалежнасць», дык я на такое выказванне не адважыўся. Пра «значную дзяржаўна-палітычную самастойнасць Вялікага княства» ў Рэчы Паспалітай зусім нядаўна на старонках «ЛіМа» пісаў таксама В. Грыцкевіч. Лічу, што шаноўным апанентам трэба больш уважліва чытаць працы гісторыкаў, перш чым пачынаць палеміку.

Мае апаненты пішуць, быццам я «згодны цалкам апраўдаць пераход М. Сматрыцкага ва уніяцтва і нават гатовы залічыць езуітаў у саюзнікі брацкага руху».

Мялецію Сматрыцкага апраўдвае гісторыя: не ён пер-

**кам, якія сапраўды ў вялікім даўгу перад нашай грамадскасцю ў вывучэнні багатага мінулага беларускага народа і яго культурнай спадчыны.**

Аўтары падручніка самі добра бачаць і адчуваюць моцныя і слабыя бакі сваёй працы. Сапраўды, не ўсё атрымалася так, як хацелася. Не ўсюды вытрымана адзінства стылю, аўтары і рэдактары не змаглі таксама дасягнуць поўнай суразмернасці ў падачы матэрыялу. Адны творы, напрыклад, «Песня пра зубра» М. Гусоўскага, разгледжаны вельмі шырока і грунтоўна, іншыя зусім бегла, а некаторыя нават не згаданы, як, напрыклад, напісаная па-беларуску ананімная паэма «Лямант на смерць Лявона Карповіча» (1620 г.), буйныя творы А. Рымшы. Наогул, артыкул пра беларускую старажытную паэзію мог бы быць больш змястоўны і цікавы. Шмат якім старонкам кнігі нестае свежасці і жывасці выкладу. Вельмі прыдалася б і студэнту і выкладчыку бібліяграфія асноўных публікацый помнікаў беларускай пісьменнасці і важнейшых даследаванняў. Сустракаюцца ў кнізе і асобныя недакладнасці, стылістычныя агрэхі, супярэчлівыя сцвярджэнні (некаторыя з іх заўважыў наш крытык). Не заўсёды дакладна цытуюцца тэксты арыгінальных твораў. Так, у вядомым вершы Я. Пашкевіча «Польшча квітнее лацінаю» замест «не пребудеш» чамусьці пададзена «не пробудешь», слова «лациною» неапраўдана выпраўлена на «лацизною».

Крытычнае стаўленне да падручніка, выяўленыя ў ім асобныя недакладнасці і недахопы не павінны, аднак, засланяць галоўнага, таго станоўчага, што ў ім ёсць. І вельмі шкада, што ён выпушчан мізэрным тыражом — усяго 2300 экз., хоць гэтую навукова-папулярную кнігу з цікавасцю і карысцю прачытала б і больш шырокае кола чытачоў. Таму ўзнікла вострая неабходнасць у паўторным, папраўленым і дапоўненым яго выданні. І тут вельмі дарэчы былі б кваліфікаваныя заўвагі і пажаданні, аб'ектыўная ацэнка прароблենай вучонымі працы, што дапамагло б удасканаліць падручнік.

**А. КОРШУНАЎ,**
**У. КАРОТКІ,**
**кандыдаты філалагічных навук.**

## СЛУЖБА ЗВАРОТНАЙ СУВЯЗІ

**Перад намі — выпадак не такі і часты ў рэдакцыйнай практыцы... На чытацкі допіс М. Талочкі (2.X.87 г.), у якім даецца адмоўная ацэнка кнігі У. Мазго «Вершаліна», адгукнулася некалькі нашых чытачоў, і першым — сам аўтар зборніка. Не будзем прыводзіць ліст «ахвяры» (так называе сябе У. Мазго), прывядзём вытрымку з ліста другога нашага чытача — М. Пазнякова. Ён піша: «Вядома, У. Мазго, кніжку якога ганьбіць Талочка, не класік. Вершы ў паэта — розныя. Толькі навошта такі аднабаковы, тэндэнцыйны разгляд, голае крытыканства! Каму карысць ад гэтага! Лічу, што павінен з'явіцца матэрыял пра кніжку У. Мазго, напісаны прафесіянальна падрыхтаваным чалавекам».**

**Пакінем на сумленні чытача залішне экспрэсіўнае слова «ганьбіць», бо наша газета крытыкуе творы, а не асобы, і не мела намеру абразіць маладога паэта. Аднак прапанова Пазнякова падалася нам слушнай, і мы звярнуліся па дапамогу да аднаго са старэйшых нашых крытыкаў, Уладзіміра Юрэвіча, які даўно і зацікаўлена сочыць за творчым ростам У. Мазго. Мы ў многім пагаджаемся з вопытным крытыкам, які знаходзіць паасобныя ўдалыя радкі і вершы ў кнізе «Вершаліна», і падзяляем яго гуманны клопат — «не біць па крылах». Разам з тым лічым, што У. Мазго варта прыслухацца і да папярэдне выказанай думкі чытача — якой бы суровай і несправядлівай яна яму ні падалася. Гэта дапамагло б яму пазбегнуць недахопаў у наступнай кнізе і навучыцца неабходнай творцу самакрытычнасці.**

# НЕ ТРЭБА БІЦЬ ПА КРЫЛАХ

З нагоды апублікавання рэцэнзіі Міхася Талочкі «Вершаліна без каранёў» («ЛіМ» ад 2 кастрычніка 1987 г.) маю сказаць сёе-тое. Дрэнна, калі меркаваць пра паэтычную кніжку бяруцца па рэдакцыйнай анатацыі і па адным вершы, ды і то наўмысна адсекшы яму «галаву».

Сапраўды ж, калі рэцэнзент, ураз махнуўшы крытычнай шабелькай, касуе творчы пасыл паэта пра яго «блізкае далёка» —

**Поўная, як вона,**
**Чыстая крыніца.**
**Студня каля хаты,**
**Пад вярбой густой...—**

тады становіцца «няўцямнай» аўтарава вечная віна, што не наканавана было яму грудзьмі легчы за родную працавітую зямлю, якая «сабе вярнула мірную сінечу», справілася з гэтай высакароднай місіяй сама, без яго маладой сілы, а намаганнямі толькі бацькоў ды дзядоў. Павініцца варта хоць бы перад светлай памяццю былых пакаленняў. Што ж тут доўга думаць!

Уладзімір Мазго, аўтар кнігі лірыкі «Вершаліна» (выдавецтва «Мастацкая літаратура», 1987), разумее грамадзянскасць па-сучаснаму не як «наклейку» на збалелае сэрца лірычнага героя, а толькі як вышэйшы стан маральнага духу чалавека, як глыбока асабістае яго ўяўленне пра дабро і зло, якім асвятляецца шлях у абсягі справы, учынку, грамадскага дзеяння. Сапраўды, «да светлых пачуццяў» паэта варта было б падыходзіць не тое што «больш асцярожна», а і адказна, з імкненнем асэнсаваць, раскрыць чытачу глыбінны падтэкст, таямнічую сілу шматкроп'я...

Можа, варта ўсё ж такі лірычны верш, як і кожны мастацкі твор, лічыць слоўным выказваннем, у якім элементы ўступаюць не толькі ў лагічныя стасункі, але разам з тым яшчэ і ствараюць **вобразны сэнс.** У. Мазго пра гэта ў большасці вершаў якраз і дбае найперш («А з неба сонечнае млівa лавіла вуснамі зямля...»).

Невялікі верш, усяго чатыры страфы — «Скачок з парашутам» (дакладней было б назваць «Саскок з парашутам»), а як насычаны сацыяльным зместам яго вобразы: «стропы парашутаў — ці, можа, лёсу лейцы?..» і знітаванасць з небам «навек адным памкненнем», і «патрэба вось так, адкрыўшы люк, сысці з вышыняў неба на грэшную зямлю», і, нарэшце, самакрытычны позірк на сваю творчую адметнасць:

**Гудуць ад ветру стропы**
**Няўпэўненасці першай,**
**Ці, можа, шэпчуць строфы**
**Нявынашаных вершаў?..**

Ёсць у зборніку «Вершаліна» і нявынашаныя радкі, нават вершы («Кляновы ліст», «Жаўрук», «Каля Сынковіч», «Прайшлі ваду мы і агонь»). Але падставы вынесці ў загаловак рэцэнзіі катэгарычны прысуд «Вершаліна без каранёў» не даюць і яны. Ды яшчэ аднесці плённы пошук паэтам сваёй сцяжыны да разраду макулатуры, — што можа толькі чалавек, настроены ўчыніць эпатаж у літаратуры.

Абавязковай рысай прынцыповай размовы крытыка ва ўсе часы былі доказнасць, імкненне глядзець на твор, а тым больш на кніжку ў цэлым праз нармальныя, празрыстыя акуляры. Міхась Талочка карыстаецца толькі чорнымі, бо, бачыце, раздражняе яго ў вершах пра армію рамантызацыя вайсковай службы. Вядома, верш «Танкадром» не з лепшых, залішне разнасцежаны для вонкавых атрыбутаў мірных будняў танкістаў, але і ў ім не цяжка было заўважыць паэтава імкненне шукаць трапны вобраз, што нараджаецца на мосце асабістай памяці («Як жарабкі, стрыгуць вушамі радары над граніцаю»).

Ды і ў працытаваным рэцэнзентам вершы «Фенікс» ёсць адчуванне вобраза Бацькаўшчыны праз той час, у якім заранне сталеў паэт: «Вучыўся па старонках мемарыяльных пліт чытаць — «Вечная слава героям!..» Хіба не відзён тут адбітак моцнай, асабістай перажытасці, глыбокага сэнсу? А крытык піша, што аўтару бракуе гэтых якасцей. Менавіта шчырым лірызмам сагрэты і такія радкі: «Твая знямелая Няміга ў жылах плешчацца маіх...» («Мінск»).

Недарэчы пацвельваецца рэцэнзент з вобраза сённяшняга Купалля. Паэт адчуў патаемны змест даўняй традыцыі, перанесенай ў нашыя дні, калі Купальскае свята наладжваецца як вясёлае, зухаватае маладзёжнае відовішча, у якім праз вогнішча скачуць юнакі і дзяўчаты не дзеля ачышчальнай магіі, як было даўней, а каб паказаць свой спрыт, адвагу, сваю дужасць. Чаму ж самым увішным у гэтым нязвыклым спаборніцтве не гукнуць «Малайцы!», як на звыклым футболе. Нічога тут паэтам не наблытана, толькі заўважана пэўная рэалія часу, што кладзе адбітак на традыцыю, робіць яе сучаснай.

Увогуле заўвагі рэцэнзента выяўляюць у ім нейкае хваравітае злосьніцанне, імкненне зрабіць як мага балючай. А гэта ўжо ў крытыцы прыём недазволены, вульгарны.

Не з адных жа штампаў, як зазначае рэцэнзент, складзены і вершы пра каханне. Іх цэлы раздзел — «Вішнёвая завея». Не абмінулі штампы паэтычнага мыслення і У. Мазго. Але большасць — вершы шчырыя, зграбныя, самавітыя («Перад вачамі — вочы», «Як гэта мала», «Чакаючы цябе», «Жаўтакрылы лістабой», «Мы верым у працяг»). Адзін з іх гучыць як крэда патрабавальнасці да сябе, да свайго пакалення:

**Нам хочацца надзей**
**Узвышаных**
**І крылаў,**
**Якіх бы не на дзень —**
**На ўсё жыццё хапіла...**

І як бы прадаўжаючы сваю запаветную думку, У. Мазго вяртаецца да яе ўжо ў плане шырокамаштабным, глабальным:

**Пакутная Зямля:**
**Сягоння гэтак хістка.**
**Надзея на пасля —**
**На ўздыме альпіністка.**

Сказана сучаснікам і па-сучаснаму. Няўжо нельга было рэцэнзенту пагаварыць з паэтам і яго чытачамі шчыра, доказна, бо за творчае правіла У. Мазго бярэ запавет старэйшых: «А паэзія — гэта глыбокі ўздых і кропля жывой крыві» (Э. Межэлайціс).

**Уладзімір ЮРЭВІЧ.**

**шы, не ён апошні, унія ўсё-ткі (пра гэта М. Гарэцкі і У. Караткевіч пісалі) адыграла пэўную ролю ў захаванні нашага слова, нашай пісьменнасці. Яго апраўдвае і класавая логіка: не кожны іерарх мог не паддацца агульнай плыні ў той час, калі, кажучы словамі гісторыка Г. Галенчанкі, адбывалася «палітычная, царкоўна-рэлігійная, культурная інтэграцыя сацыяльных вярхоў Рэчы Паспалітай».**

**Прашу апанентаў звярнуць увагу на словы «царкоўна-рэлігійная інтэграцыя». Што ж такое унія, як не інтэграцыя дзвюх артадаксальных цэркваў?**

**Сматрыцкі быў сын свайго часу і свайго класа, сваёй карпарацыі. І на гэта трэба глядзець як на рэальнасць, якую нельга паправіць. Як на рэальнасць трэба глядзець і на яго літаратурны талент, які анічога не страціў пасля пераходу Сматрыцкага ва уніяцтва.**

**Нарэшце, пра саюз езуітаў і брацкага руху. Зноў-такі, гаворка павінна ісці не пра брацтвы як такія, а пра феадальныя вярхі і гараджан у брацтвах. Пра гэта я, здаецца, і пісаў.**

**Дык пра што спрэчка? Пра тое, што ў XVI—XVII стст. барацьба за нацыянальна-культурную адметнасць немагчымая была для народа без барацьбы за праваслаўе? Гэтага я ані разу не аспрэчваў. Я звяртаў увагу на тое, што праваслаўныя брацтвы былі нетрывалымі аб'яднаннямі, бо вера вераю, а матэрыяльныя інтарэсы—гэта матэрыяльныя інтарэсы. Не ў апошнюю чаргу на брацтвы ўплывала і тое, што сяляне пераходзілі ва уніяцтва ды каталіцтва без асаблівага супраціўлення. Нават у падручніках Л. Абэцэдарскага ды яго вучняў я не чытаў пра нейкія значныя выступленні сялян супраць новае веры. Але што дзіўна, дык тое, што, перайшоўшы ў асноўнай сваёй масе ў каталіцтва ды уніяцтва, беларускі народ усё-ткі не страціў ані мовы сваёй, ані песні. Мяркую, што слушна будзе гучаць такая думка: паралельна з інтэграцыяй сацыяльных вярхоў Рэчы Паспалітай адбывалася культурная, духоўная інтэграцыя беларускага народа. Нягледзячы на тое, што беларусы належалі да розных канфесій, народная культура выстаяла і нават развівалася. Значыць, паміж нацыянальным і рэлігійным ёсць адрозненні, і ставіць знак роўнасці паміж нацыянальным і рэлігійным, нават робячы папраўку на сярэднія вякі, нельга.**

**Мяне цешыць тое, што мае апаненты не абверглі маіх тэзісаў па сутнасці, з цытатамі і фактамі на руках. Пакрыўдзіўшыся на крытыку, яны не ўлічылі, што ў пэўных высновах я абапіраюся на сапраўды новыя ідэі нашай гістарыяграфіі, але ўрэшце вымушаны былі прызнаць, што работы наперадзе яшчэ шмат. Хоць і мала, як пішуць А. Коршунаў ды У. Караткі, але, спадзяюся, ў гэтай справе дапамогуць і мае «тэндэнцыйныя нататкі».**

**Анатоль СІДАРЭВІЧ.**

# «Нямое» слова трывогі

**(Заканчэнне. Пачатак на стар. 5).**

Гэта табе па волі аўтара прыходзіцца думаць за лесавіка, адчуваць за лесавіка, трывожыцца і перажываць не разам з ім, а за яго, быць ім, улазіць у яго шкуру. І гэта ты сам бачыш, як падобныя да цябе неахайна, неашчадліва крышаць і разбураюць прыроду. Так пад пяром празаіка праблема духоўная і праблема сацыяльная яднаюцца ў адно — праблему экалогіі душы.

Новая аповесць А. Кажадуба цікавая многім. Якраз там, дзе яго, Кажадуба, вопыт і практыка — там пластыка і ёмістасць мастацкай фразы, трапнасць і дакладнасць дэталей. Якраз з асабістага ведання скарбаў народнай творчасці ідзе цікавая трансфармацыя яе ў творы. Як не парадавацца таму, што А. Кажадуб піша сваю, яму вядомую і ім зразуметую прыроду—маляўніча, зграбна, зрокава, запамінальна. І шматлікія «дробязі» непрыкметна пракідваюцца і надоўга застаюцца ў памяці.

Думаю, што вельмі своечасова А. Кажадуб адчуў неабходнасць з'яўлення персанажа, які быў бы духоўна блізкім лесавіку, — дзяўчыны, што вольна пачувае сябе ў лесе. Вобраз гэтай дзяўчыны, намаляваны ў процівагу лесавіку скупа, без лішняй экзальтацыі, не выконвае істотнай праблемнай функцыі. І разам з тым, гэты вобраз пазбаўляе аповесць аднабаковасці, удатна аздабляе яе — перш за ўсё праз тое, што хораша «ачалавечвае» лесавіка, набліжае яго да чытача.

І ўсё ж чаму не праходзіць адчуванне як бы не поўнай раскрытасці творчых здольнасцей пісьменніка?

Аблегчанасць фінала твора? Сапраўды, канцоўкі твораў, асабліва аповесцей, пакуль што не зусім паддаюцца А. Кажадубу. Але ў дадзеным выпадку някепска, што пісьменнік не пайшоў за схематычным, павярхоўным рашэннем праблемы, а і чытачу пакінуў дадатковую мысліцельную прастору.

Ёсць пэўная доля наіўнасці? Так, напрыклад, вельмі дзіўна выглядае лесавік, які надзелены ледзь не ўсяленскай мудрасцю і які, аднак, не разумее, чаму адны ўзброеныя людзі «ганяюцца» за другімі.

Адкуль жа адчуванне, быццам нераспрамленай, нераскручанай засталася яшчэ адна ўнутраная спружына, пакінуўшы ў сабе нязбыты, агромністы запас энергіі, так і не даведзенай да чытача?

«...за апошнія сто гадоў зніклі семдзесят відаў раслін, зусім зніклі, бясследна. З другой паловы нашага стагоддзя вымірае адзін від у год. А дыназаўры вымiралі цэлую тысячу гадоў».

Уражвае? Бадай што так. А вось такое: «Торф у Беларусі скончыўся, няма чаго вывучаць...». «Востра стаіць салігорская праблема. Гіганцкія солеадвалы і шламасховішчы са смяротэльнымі для жывой прыроды расоламі ўяўляюць пагрозу ўсяму беларускаму Палессю і, будзем шчырымі, усяму басейну Дняпра». «Неабходна памятаць, што калі ў будучыні цывілізацыя і апынецца на мяжы катастрофы, то не за-за недахопу машын, прыбораў, матэматычных формул і г. д., а з-за экалагічнага крызісу на канкрэтных тэрыторыях». «...няма каму займацца праблемамі (экалогіі. — **І. Ж.**) менавіта ў нас у Беларусі. З пункту гледжання інтарэсаў насельніцтва, прыроды, медыцыны...» Гэта — ужо не з аповесці, а з «круглага стала», прысвечанага экалагічным праблемам («Нёман», 1987, № 9).

Супастаўім: у публіцыстыцы знікла абцякаемая ўсеагульнасць, абстрактнасць. А якраз абстрактнай вінаватасцю, акрэсленай, але пасіўнай пазіцыяй староннняга назіральніка і не дабірае аповесць. Як быццам у самога А. Кажадуба не хапіла веры ў значнасць і неабходнасць таго, пра што піша, як быццам свайму сэрцу не хапіла даверу.

Тым больш, што абраны персанаж — гэта нямое слова трывогі і болю. А яшчэ больш, што само жыццё ўладарна, абвострана паставіла лёс людзей у прамую залежнасць ад лёсу зямлі.

І літаратуры тут — не апошняе слова.

ПАЭЗІЯ

## Яўгенія ПФЛЯЎМБАЎМ



Яўгенія Пфляўмбаўм нарадзілася ў сям'і мінскага чыгуначніка Эргарда Пфляўмбаўма і Алены Лагун, сіраціны з прыгараднай вёскі Прылукі.

Піша змалку, друкуецца з 1924 года, тады ж уступае ў «Маладняк», неўзабаве выбіраецца ў склад бюро Мінскай філіі, а затым — у кіраўніцтва ўсяго аб'яднання. У 1925—1930 гг. вершы змяшчаліся ў «Полымі», «Маладняку», «Звяздзе», «Савецкай Беларусі», а таксама ў калектыўным зборніку «Вершы» (1926).

Скончыла БДУ ў 1929 годзе, некаторы час настаўнічала ў Сібіры, пасля працавала рэдактарам аднаго з выдавецтваў у Маскве.

Зараз жыве ў Мінску.

Прапануем чытачу вершы Я. Пфляўмбаўм пераважна апошняга часу.

### Майму радку

Даўно мы з табой не спявалі—
Ты змоўк, занядбаны радок,
Глядзіш на мяне нібы з жалем,
Хоць я цябе чую за крок.

Не можа так быць, не павінна,—
Ты мой да астатняга дня,
Ты быў мне і другам, і сынам,
Ты ўсе мае ношы падняў,—

З мялін, са знявагі, з пакуты,
Ласкава ты вёў за руку
Праз наледзь мяцеліцы лютай...—
І ты ўжо са мной давякуй.

### Малітва

Я не хачу, каб адгучала,
Каб за паводкамі сплыло
Усё, што з песні стала шквалам...
Жыві са мной, мая навала,
Грымі сваім высокім балам,
Дзевятым валам, што ўзнёс
Журлівы мой
жаноцкі
лёс.

1976

●

Як? Жыць з пяра—пісаць на друк?—
Я з тых, што не пускаюць з рук
Жмут споведзі, скразняк душы.
Не можаш не пісаць—пішы,
Ды ўсчаўшы з гукамі гульню,
Хіба смыком не станеш ты,
Хіба ты вернешся да тых
Вясёлых злыдняў і манюк?
Не можаш не пісаць—пішы,
Касцёр бяссца падварушы,
Няхай уздымецца агонь
Да скаржанелых тых багоў,
Што запальнічкі не знайшлі,
І сцюжа выдзьмула Алімп.

Тваё пісанне не тавар,
Не ў пару творыкам няздар,
Яно, як кажуць, для душы:
Не можаш не пісаць—пішы,
Вось толькі фальшам не грашы.

### Марыінск Томскі

Халодны сон, без ценю сноў,
Без згадкі прывіднай, без крозы.
А як заснуць, каб так цвяроза
Убачыць грань, што на відно
Лязом прарэзала акно,
І думкай яснай будзіць мозак.

Халодны свет. Чужой рукой
Я адчыняю браму ў дом свой:
Марыінск Томскі,—новы дом,
І сцюжу гэтага знаёмства
Мне цяжка выславіць радком.

1934

### Кавалкі лёсу

Калісьці быў мне дружбаком
Сібірскі вецер вольны,
Хоць шапачку зрываў крадком,
Ды аграваў такім радком,
Што мог быць спевам сольным.

І як спявалася тады
Між снегавых сумётаў!
З тае далёкае хады
Збыла я вобразы бяды,—
То ж свет увесь быў малады
І абяцаў клейноты.

Я іх трымала у руках—
Зіхлівыя алмазы,—
І той часовы хісткі дах
Стаў домам мне адразу.

А, можа, ён адзіны быў
На ўвесь мой шлях дзівачны,
Бо ўсё здаецца мне, нібы
У сне па ім я плачу.

Сібір, Сібір, і ў сэрцы вір,
Часінай той узняты:
Палала вогнішча ў крыві,
У прагнасці зацятай.

А як мы біліся з табой,
Сібірскі вецер з волі,—
Ад золку пачыналі бой,
І твой раз'юшаны габой
Кружыў мяне па полі.

Іду напрост—такі узрост!
Такая, зрэшты, мара,
А ты, як з карабля матрос,—
Цябе зямля вядзе наўкос,
Каб абваліць і ўдарыць.

Я не магу паспець у час,
Хоць там чакае школа,
Няма святла, гарыць свяча
І дзеці весела крычаць,
А ты гудзеш, назола!

Тры крокі ўперад,
Пяць назад...—
Гульня ў цябе такая.
Свой нораў ты расперазаў
І гнеў мой падпякаеш.

А ўрэшце—смешная бяга:
Напрост не дойдзеш мэты,
Патрэбна тут плячэй вага,
Каб трохі збочыла пурга
Перад святлом асветы!

Зачэрпаўшы ў цябе, Сібір,
Навуку бітвы з ветрам,
Я ўжо адольвала свой вір,
І ўсталяваўся ўрэшце мір
На школьных кіламетрах.

1934

### Галіна гайдае дразда

Гляджу, як вячэрае дрозд
Яшчэ ружаватаю вішняй,
Ды ім жа, малым, на падрост
У дзюбы падкінуць нялішне.

Галіна гайдае дразда,
І так яму смачна клюецца,
А з нас, нелятучых, няздар,
Ён ціхенька нібы смяецца:

— Няма ў вас мае вышыні,
І крылы не маюць размаху,
Каб так: разгарні і звіні
Пад самым валошкавым дахам.

---

**Уладзімір КАРАТКЕВІЧ**

# Паляшук

*АПАВЯДАННЕ*

**«Виновники мятежа и вообще лица, содействующие ниспровержению правительственной власти в в крае, должны быть, для примера другим, судимы и наказаны немедленно по всей строгости полевого уложения; собирание излишних фактов... лишь усложняет и замедляет делопроизводство».**
(З загада графа Мураўёва)

— Ты ведаеш, што ты падлягаеш расстрэлу? — спытаў стаяўшага прад ім чалавека капітан Румянцаў.

Той змаўчаў. Стаяў прама, неяк дзіўна выцягнуўшыся і толькі вочы яго з затоеным сумам сачылі за пушчай, куды яму ўжо не было шляхоў.

Увосень 1863 года частка коннага загона Чэнгірэя, моцна патрапанага ў безупынных сутычках з інсургентамі, была, па спецыяльнаму загаду штабканцылярыі, размешчана на адпачынак у глухім палескім сяле. Толькі-толькі адгрымелі раскаты паўстання, і хоць сам «дыктатар» яшчэ не быў схоплены і нават ніхто не ведаў, ці ў Вільні ён, але ўсё ўжо суціхала, дабіваліся апошнія чырвоныя загоны, няшчасныя зацкаваныя людзі хаваліся па лясах.

Край дагараў і разам з тым выпаўзала на свет тое, што раней старанна хавалі: здрада, падлоты і мярзотны жах. Усе падонкі людства пачалі сваю мышыную вазню ля гожага нават зараз трупа Паўстання. Махровымі кветкамі ўзраслі лжывыя даносы, шантаж, правакацыя. Спуджаныя бюргеры выкладвалі з кішэняў столькі грошай, сколькі жадаў агаворшчык, абы толькі потым, пры вобшуку, не знайшлі дзесьці ў доме альбо сараі падкінутай зброі.

Усю мярзоту, што звычайна хаваецца на самым дне людское душы, саромячыся падняць галаву, выцягнулі зараз стуль і выставілі для агульнага агляду і прыпадабнення, і капітан Румянцаў, які заўсёды быў сумленным ваякам, пачаў казаць за гарэлкаю і картамі:

— Дзярмо. І палячочкі і гэтыя вашы, паручык Ратч, палескія вылюдкі. Ды, калі праўду казаць, дык і мы такія ж, калі яшчэ не горшыя. «Душыцелі». Няма чаго казаць, гожая для вялікай Расіі справа.

У адзін з апошніх дзён «баб'яй восені», калі лясы пачалі, пасля працяглага бязветрыя, страхаць на зямлю залаты дождж лісця, а ночы былі асабліва цёмнымі — нехта падпаліў стайню і склад з амуніцыяй і зброяй. Надвор'е стаяла ветранае і сухое, і таму ўсё пагарэла датла. Пасілілі каравул, але праз дзве ночы нехта падкінуў у пакой Румянцава і паручыку Барзіловічу па змяі. Румянцаў «выкруціўся толькі цудам», а паручык памёр, хоць лекар, якога прывязлі з горада, прыпальваў яму ўкус нейкім белым камянём.

І вось тагды салдаты, абшукваючы ваколіцы сяла, выпаралі з нейкай нары пад карэннямі старога дрэва палешука. Ён быў данельга брудны, з амаль бязвусым тварам і таму цяжка было станоўча сказаць, стары ён ці малады.

Нізенькі, у нязменных поршнях і кажуху, з голаю галавою ён стаяў перад афіцэрамі, шчыльна сціснуўшы сківіцы. Выцягнутая з-за паяса сякера і старая стрэльба, а таксама вагніва і крамень у скураной торбачцы былі ўлікамі.

— Ты хто такі? — спытаў яго Румянцаў.

— Паляўнічы.

— А хто цябе ведае ў акрузе?

— Ведаюць звяры маю кулю.

Румянцаў пасміхнуўся нервова. Гэты дзікун раздражаў яго.

— Ну, а, можа, ты ведаеш, хто падпаліў на сяле будынкі і кідаў да нас у вокны змей?

— Не, не ведаю.

— А хто ж ведае?

— Ведае цёмная пушча, неба, хмара, а той, што зрабіў, — усё адно не скажа.

— Чаму?

Паляшук змаўчаў. Ён па-ранейшаму глядзеў на неба, і губы яго слаба рухаліся. Румянцаў паглядзеў на яго і сказаў паручыку Ратчу:

— Вось вам, прыхільнікам гісторыі, добры абразчык. Першабытны жыхар лясоў. У, фанатычная морда, каб была ахвота паскудзіцца...

Ратч з сваімі жаноцкі прыгожымі вачыма адказаў:

— Гэта не фанатызм, гэта — звычайная абмежаванасць і жывёльная тупасць. У гэтых маіх імшарах патрыятызм і нянавісць да нас пакуль што з'явіцца не могуць. Можа, гэта й не ён падпаліў наогул.

Румянцаў раззлаваўся:

— Ну, ён ці не ён, патрыятызм гэта ці звычайны бандытызм, а я яго расстраляю. У наступны раз не будзе павадна іншым бадзяцца са зброяй у недазволеных месцах. Шабаш!

І ён разануў далонню па паветры, быццам паказваючы, што няма чаго далей валаводзіцца. Палешука адвялі ў пуню, пакуль паны-афіцэры пераапрануцца і нап'юцца чаю з ромам. Гэта цягнулася амаль што цэлую гадзіну, і ўвесь гэты час паляшук спяваў нейкія, зусім не жаласныя спевы хрыплым голасам, падобным да лаю сабакі. Першым прыйшоў за ім Ратч і пабачыў: паляшук сядзеў, забіўшыся ў кут, і з цемры блішчалі яго вочы. Ратч спытаў:

— Чаму гэта ў цябе песні такія гнеўныя?

— Мужчынскія,— адказаў паляшук і зноў заціх.

Ратчу падабаўся гэты дзікун, нягледзячы на тое, што гэта была жывёла, тупая і выраджаючаяся з кожным пакаленнем. Бачная была ў гэтай жывёле нязломнасць. Калі паляшук глядзеў на пушчу — Ратчу здавалася, што гэта арол, пасаджаны ў клетку, пазірае на высокія, залітыя сонцам горы. Там шмат часу трымаецца святло, а тут, па лагчынах, ужо ляжыць цемра і імгла і ніколі ўжо не прашумець яму на верхавінах магутнымі сваімі скрыдламі. Ратч любіў селяніна сваіх беларускіх абшараў, пакорнага, рэлігійнага, набітага забабонамі да мазга касцей і, разам з тым, моцнага, вытрымлівага.

Вось зараз ён, вядома, сумуе, што загіне без сабаравання.

— Ты ў якога бога верыш? У уніяцкага альбо праваслаўнага?

— Чаго?

— Ну, дзе твой бог: у касцёле ці ў царкве?

Паляшук зітхнуў і адказаў упэўнена:

— А нашто бога саджаць у каменную будку? Бог у кожнай былцы і ў лясах і ў багне — паўсюль.

— Нейкі палітэізм, — падумаў паручык.

Ззаду Ратча затрашчаў барабан: падыходзілі салдаты.

Справа ўжо йшла к вечару. Стаяў шэры кастрычніцкі дзянёк, і хоць ранція маразы ўжо скончыліся — яны падтачылі лісце і яно валілася зверху чырвонымі варахамі, і лес безупынна шалахцеў, прыгаваронны да страты.

Чорныя галіны дрэў асабліва ярка вымалёўваліся на гэтай чырвонай казцы, а ліст ляцеў наўскасок, ляцеў, ляцеў.

*Насустрач І Усесаюзнаму фестывалю музычных тэатраў*

# Праз тры дні ў Мінску

**Падзея не адбылася яшчэ, мы толькі чакаем яе. Чакаем з вядомым радасна-трывожным пачуццём: ШТО будзе, ЯК будзе!.. Адно ясна: падзея гэтая ўвойдзе ў гісторыю айчыннага мастацтва, і Мінск назавуць месцам правядзення ПЕРШАГА фестывалю музычных тэатраў краіны.**

**Так, у сталіцы Беларусі неўзабаве пройдзе І Усесаюзны фестываль музычных тэатраў. Ён праводзіцца ў рамках Усесаюзнай творчай сустрэчы «Тэатр і час», пра якую нашы чытачы, безумоўна, ведаюць. З 1 па 12 снежня ў Дзяржаўным тэатры оперы і балета БССР і на сцэне тэатра музычнай камедыі будуць паказаны найбольш адметныя работы розных творчых калектываў краіны, уключаныя ў фестывальную праграму па рэкамендацыі СТД СССР.**

**Адкрые гэтую праграму спектакль мінчан — «Вайна і мір» С. Пракоф'ева (дырыжор Г. Праватораў, рэжысёр С. Штэйн, мастак Э. Гейдэбрэхт). Фестывальную эстафету прымуць Акадэмічны Вялікі тэатр Узбекскай ССР імя Алішэра Наваі («Вогненны анёл» С. Пракоф'ева — першая пастаноўка ў СССР у поўнай аўтарскай рэдакцыі); Ленінградскі тэатр сучаснага балета пад кіраўніцтвам Б. Эйфмана («Майстар і Маргарыта» А. Пятрова, спектакль «Легенда»); Саратаўскі тэатр оперы і балета імя М. Чарнышэўскага («Утаймаванне свавольніцы» В. Шабаліна); тэатр «Эстонія» (спектакль «Маналогі»); Тбіліскі тэатр оперы і балета імя З. Паліяшвілі («Музыка для жывых» Г. Канчэлі, «Барбале» паводле оперы «Кето і Катэ» В. Далідзе — Д. Кахідзе). Акадэмічны тэатр оперы і балета імя А. В. Луначарскага са Свярдлоўска пакажа таксама дзве работы: «Казкі Гофмана» Ж. Афенбаха і «Прарок» У. Кабекіна паводле твораў А. С. Пушкіна (стваральнікі гэтай оперы адзначаны сёлета Дзяржаўнай прэміяй СССР); два вечары выступае і Ленінградскі Малы тэатр оперы і балета (балет «Макбет» Ш. Калаша і аднаактовыя балеты). Адэскі акадэмічны тэатр оперы і балета прадстаўлены операй В. Губарэнкі «Вій». На фестывалі адбудзецца вечар беларускага балета («Карміна Бурана» К. Орфа, «Балеро» М. Равеля, «Вясна свяшчэнная» І. Стравінскага — аднаактовыя пастаноўкі В. Елізар'ева).**

**Штодня спецыялісты, крытыкі будуць абмяркоўваць пабачаныя творы. Саюз кампазітараў СССР наладзіць семінар па пытаннях сучаснай савецкай оперы. Пройдуць навукова-практычныя канферэнцыі па пытаннях балетнага і опернага мастацтваў. У рамках культурнай праграмы госці Мінска змогуць пазнаёміцца з работамі энтузіястаў Клуба сяброў оперы: «Медыум» Д. Меноці, «Чалавечы голас» Ф. Пуленка, «Альпійская балада» В. Губарэнкі. 13 снежня — заключная канферэнцыя...**

**Фестываль пачнецца праз тры дні. Імгненні сустрэч калег і сяброў, атмасфера спектакляў і творчых дыскусій, — усё гэта ў нашых будучых публікацыях. А сёння прывітальнае слова фестывалю і гасцям Беларусі адрасуе са старонак «ЛіМа» мінчанін, оперны рэжысёр С. Штэйн. Здымкі ж, якія мы змяшчаем, — своеасаблівая фотаафіша першага ўсесаюзнага музычна-тэатральнага форуму.**

# Чакаем дарагіх гасцей

НЕМАГЧЫМА ПЕРААЦАНІЦЬ значэнне гэтага фестывалю. Першы ўсесаюзны... Першы! Нарэшце! Ніякавата было даведвацца, што фестываль С. Пракоф'ева прайшоў не ў нас, а ў Празе, М. Мусаргскага — у Мілане, што ў дружалюбнай Балгарыі штогод у Стара Загоры праводзяцца музычна-тэатральныя фестывалі, а праз чатыры гады — найцікавыя конкурсы музычных тэатраў НРБ...

І вось—першы такі форум у нашай краіне, ды яшчэ ў Мінску. Хоць ёсць у нас пэўныя традыцыі — правядзенне усесаюзных фестываляў творчай моладзі музычных тэатраў, але хіба можна іх параўнаць па маштабе і значнасці з сёлетнім святам! Нам не проста цікава. Нам — карысна: ёсць чаму павучыцца... І калі гэта першая ластаўка, што прыляцела да нас зімой, не зробіць вясны, то, безумоўна, наблізіць яе.

З кожным тэатрам мяне звязваюць тыя альбо іншыя ўзаемаадносіны. І хоць большасць спектакляў, уключаных у праграму фестывалю, мне не знаёмыя (тым больш цікава!), я хачу падзяліцца думкамі пра нашых гасцей напярэдадні сустрэчы з імі.

«Вогненны анёл» С. Пракоф'ева, другі ў нашай краіне зварот да гэтай оперы. Пра спектакль узбекскага тэатра было нямала захопленых слоў у друку. Як творчы подзвіг ацаніў гэтую работу Я. Святланаў... Добра, што музыка вялікага Пракоф'ева заваёўвае сцэны нашых тэатраў, асабліва — напярэдадні 100-годдзя класіка савецкай музыкі, якое будзе адзначацца ва ўсім свеце. Сярод пастаноўшчыкаў «Вогненнага анёла»—рэжысёр Ф. Сафараў, пра якога я чуў шмат добрага, але, на жаль, не знаёмы з ім, і дырыжор — галоўны дырыжор тэатра, народная артыстка СССР Д. Абдурахманава—выдатны майстар, музыкант і арганізатар.

Гадоў 10—12 назад я атрымаў запрашэнне паставіць на сцэне Узбекскага тэатра імя Алішэра Наваі оперу Д. Вердзі «Баль-маскарад». Ніколі не быў у Ташкенце і таму паехаў пазнаёміцца са сцэнай, з выканаўцамі, папярэдне праштудзіраваў партытуру оперы, рыхтуючыся да гаворкі з Дзільбар Абдурахманавай. Мяне сустрэлі і чамусьці пачалі ўгаворваць хутчэй наведацца... на рынак, распісваючы ўсе яго адметнасці.

— Быць у Ташкенце ўпершыню і не пабываць на рынку?!

— Так, але я хацеў бы зірнуць на сцэну.

І вось мы ў тэатры. А там... рамонт, ускрыта сцэна.

— Дык у вас рамонт, і надоўга?

— Тыдні на два, не больш...

— А як вы думаеце? — звярнуўся я да прараба, і той упэўнена адказаў:

— Мінімум гады два.

— Вось цяпер — паехалі на рынак.

Дзільбар Гулямаўна падарыла тады мне клавір оперы з цёплым надпісам. Клавір гэты цяпер літаральна побач са мной, бо ў бліжэйшых планах нашага тэатра — пастаноўка оперы «Баль-маскарад».

ТБІЛІСКАЯ ОПЕРА... Знаёмая і не знаёмая мне. Гадоў сем назад, калі ставіў на тбіліскай сцэне «Яўгенія Анегіна» П. Чайкоўскага, я добра ведаў гэты тэатр. Аднак апошнім часам тут адбыліся настолькі ўражлівыя перамены, што на аснове вялікіх традыцый мінулага ўзнік ледзь не новы тэатр!

Цяпер тут новае кіраўніцтва на чале з выдатным дырыжорам Д. Кахідзе. Талент не толькі музыканта, але і арганізатара, які добра ведае мэту; своеасаблівае мастакоўскае мысленне, воля, — усё гэта зрабіла магутны ўплыў на творчае жыццё тэатра, які рашуча выйшаў на шлях эксперыменту, пошуку, барацьбы з размаітымі стэрэатыпамі. З тэатрам супрацоўнічаюць адметныя рэжысёры, народныя артысты СССР М. Туманішвілі, Р. Стуруа, шэраг кампазітараў Грузіі.

На фестывалі будуць паказаны два спектаклі: «Музыка для жывых» Г. Канчэлі (пастаноўка Р. Стуруа) і «Барбале» («Кето і Катэ») В. Далідзе — Д. Кахідзе. Першы з іх — нараджэнне прынцыпова новага твора як бы ў нетрах самога тэатра, сіламі яго майстроў, другі — не менш прынцыповае пераасэнсаванне нацыянальнай класікі.

На мой погляд, вельмі цікава і перспектыўна гучаць думкі самога Д. Кахідзе, накшталт: «Няма нічога больш згубнага для опернага мастацтва, чым музейны, «ахоўны» падыход. Спроба распаўсюдзіць на оперную класіку закон аб ахове помнікаў — суцэльны абсурд, а катэгарычныя патрабаванні нічога не змяняць у партытуры неабгрунтаваныя з пункту гледжання мастацтва жывога тэатра».

Што датычыць вакалістаў, дык грузінская опера заўжды вылучалася спевакамі высокага класа. У гэтым мы, канечне, пераканаемся пад час фестывалю.

РЭПЕРТУАР САРАТАЎСКАГА ТЭАТРА, яго творчае аблічча вызначае ў нашы дні галоўны дырыжор —выдатны музыкант Юрый Кочнеў. Заўсёды цікавіўся ім, ведаю многія выдатныя спектаклі, пастаўленыя пад яго музычным кіраўніцтвам. На фестывальнай афішы пазначана «Утаймаванне свавольніцы» — адна з апошніх адметных работ тэатра. Рэжысёр-пастаноўшчык гэтай оперы Вольга Іванова знаёмая мінчанам па спектаклі «Мільянерка» Я. Глебава ў Дзяржаўным тэатры музычнай камедыі БССР.

«Утаймаванне свавольніцы»— твор выдатнага кампазітара В. Шабаліна, які тонка, разумна і паэтычна прачытаў вядомую п'есу У. Шэкспіра. (Асабіста для мяне цікавасць да гэтай оперы асаблівая: мне выпаў гонар першым у нашай краіне ставіць «Утаймаванне свавольніцы» — Куйбышаў, 1957 г.). Саратаўскі тэатр мае цудоўную трупу, заўсёды звяртаецца да своеасаблівага рэпертуару, і я не сумняваюся, што паказ «Утаймавання свавольніцы» пройдзе ў Мінску з поспехам.

ВЕЛЬМІ ЛЮБЛЮ і няблага ведаю музычныя тэатры Адэсы. Гэта горад даўніх музычных традыцый. Адэсіты не без падстаў любяць паўтараць: калі спявак «прайшоў» у Адэсе— ён пройдзе ўсюды! Ведаю і спектакль «Вій», уключаны ў праграму фестывалю. Аўтар оперы — адзін з самых відных сучасных кампазітараў Віталь Губарэнка, знаёмы мінчанам па «Альпійскай баладзе», якую мы ставілі ў Клубе сяброў оперы. Уражвае перш за ўсё смелы і нечаканы падыход да вядомай аповесці М. Гогаля, трапна вызначаны жанр спектакля — опера-балет. І гэта зусім не арыгінальнічанне—маўляў, абы не так, як ва ўсіх, а глыбокае і паэтычнае спасціжэнне сутнасці фантастычнага твора. Надзіва арганічныя дуэты герояў — спевака і балерыны. Своеасаблівая і цікавая рэжысура А. Пачыкоўскага і, вядома ж, як заўсёды ашаламляльна цудоўная работа даўняга сябра нашага тэатра сцэнографа Яўгенія Лысыка. Спектакль вабіць народным каларытам, жанравымі сцэнамі, гумарам, лірыкай, фантастыкай, тонкасцю і сакавітасцю характараў.

СВЯРДЛОЎСКІ ТЭАТР пасаблівам мне дарагі. Ён заўсёды імкнуўся «да новых берагоў», заўсёды ішоў на рызыку, і ў большасці выпадкаў рызыка не была марнаю. Цэлая плеяда выдатных вакалістаў прайшла праз сцэну гэтага тэатра. У 1979 годзе я ставіў тут «Сілу лёсу» Д. Вердзі. Опера ішла на мове арыгінала і была пастаўлена ў казачна кароткі тэрмін: 3 студзеня — першая рэпетыцыя, 22 лютага—здача спектакля. Гэта магчыма толькі ў тым калектыве, дзе высокі сапраўдны прафесіяналізм, творчая дысцыпліна, любоў да тэатра не на словах, там, дзе кожны займаецца сваёй справай і дзе ўвага ўсіх: ад дырэкцыі да ўпраўлення культуры— скіраваная на дапамогу тэатру. Дарэчы, у гэтай рабоце ўдзельнічаў М. Маісеенка, цяпер саліст Дзяржаўнага тэатра оперы і балета БССР.

У Свярдлоўску вывучаюць гледача. Я быў сведкам анкетавання, якое, безумоўна, памагае кіраўніцтву тэатра ў фарміраванні рэпертуару і яго перспектывы. Усе лепшыя традыцыі, якія закладваліся дзесяцігоддзямі, не толькі падтрыманы, але і развіты цяперашнімі маладымі і таленавітымі кіраўнікамі галоўным дырыжорам Я. Бражнікам і галоўным рэжысёрам А. Ціцелем. У пастаноўцы свердлаўчан будуць паказаны ў Мінску два спектаклі. «Прарок» — пушкінскі трыпціх У. Кабекіна, літаральна народжаны ў тэатры, ён выклікаў вялікую грамадскую цікавасць, адзначаны сёлета Дзяржаўнай прэміяй СССР. Дарэчы, сярод пастаноўшчыкаў — галоўны мастак нашага тэатра Э. Гейдэбрэхт. «Казкі Гофмана» Ж. Афенбаха прываблiваюць магчымасцю параўнаць рэдакцыю твора, прапанаваную свердлаўчанамі, і пастаноўку гэтай оперы на мінскай сцэне, выканаўчы ўзровень гасцей і нашых артыстаў, музыкантаў.

ЧАКАЕМ ФЕСТЫВАЛЬ з нецярплівасцю... І, канечне, — чаго ўжо хаваць! — з вялікім хваляваннем. Бо выносім на суд саюзнай грамадскасці наш спектакль «Вайна і мір» С. Пракоф'ева, спадзеючыся апраўдаць гонар адкрыцця форуму. Акрамя таго, у рамках культурнай праграмы фестывалю пакажам два спектаклі, створаныя ў «Клубе сяброў оперы» (пра іх чытач «ЛіМа» ведае), — «Медыум» Д. Меноці і «Альпійская балада» В. Губарэнкі.

Чакаем сустрэч, дыскусій, чалавечых і творчых кантактаў.

Для дзеячаў беларускага музычна-тэатральнага мастацтва такі фестываль — не толькі гонар, а і велізарная адказнасць: творчая і арганізацыйная.

Шчырае дзякуй ўсім, хто рыхтуе гэтае свята. І—да сустрэчы, дарагія сябры!

**Сямён ШТЭЙН,**
**народны артыст БССР,**
**рэжысёр Дзяржаўнага тэатра оперы і балета БССР.**

# ПАМІЖ ПОЛЮСАМІ — АБЫЯКАВАСЦЬ

**Скульптура на рэспубліканскай выстаўцы «Краіна Саветаў»**

Цяжка сказаць, у якой ступені тэрмін «перабудова» можна літаральна аднесці да выяўленчага мастацтва. Яшчэ Маркс адзначаў, што пэўныя перыяды росквіту мастацтва неабавязкова адпавядаюць стану развіцця матэрыяльнай асновы грамадства. Мастацтва — гэта не люстэрка эканомікі. Пра тое ж сведчыць і наша гісторыя. Нездарма мы зноў і зноў вяртаемся да культурных здабыткаў 20-х гадоў. Бо ў тыя часы рухавіком культурнага працэсу была вера ў грамадскія ідэалы, якой не магло быць ні ў гады культу асобы, ні ў больш блізкія «застойныя гады».

Калі-небудзь мастацтва «застойных гадоў» будзе тэмай спецыяльнага гістарычнага даследавання. Але для нас гэта пакуль што не гісторыя, а рэчаіснасць. У чым няцяжка было ўпэўніцца на апошняй рэспубліканскай выстаўцы «Краіна Саветаў» і пра што пісалі ў «ЛіМе» мастацтвазнаўцы, аналізуючы раздзелы жывапісу і графікі. Тыя ж праблемы адлюстроўваў і раздзел скульптуры.

Каб зразумець, што беларуская скульптура перажывае не самы лепшы час, не трэба нават хадзіць у выставачныя залы і музеі. Дастаткова прайсціся па горадзе. У сталіцы рэспублікі набярэцца не многім больш чым дзесятак помнікаў. А калі сярод іх падлічыць вартыя ўвагі гледача, адметныя ў мастацкім сэнсе творы, дык пальцаў адной рукі будзе зашмат. Адзін пластычна недапрацаваны, другі стаіць не на сваім месцы, без трэцяга горад увогуле мог бы абысціся... Як архітэктурна-пластычную кампазіцыю сур'ёзна можна разглядаць толькі помнік Леніну, помнік Купалу і манумент Перамогі.

Лічылася (і цяпер па інерцыі лічыцца), што калі тэма надзённая, патрэбная, дык можна дараваць аўтару і тэхнічныя недахопы і нават адсутнасць густу. Відаць, з гэтай прычыны ў адрас аўтараў мемарыяла «Брэсцкая крэпасць-герой», помніка Якубу Коласу ў Мінску, «Прарыву» ва Ушачах дагэтуль не прагучала ні слова крытыкі. Хоць гэтыя немаштабныя бетонна-бронзавыя збудаванні з-за сваіх памераў рэжуць вока нават на фотаздымках. Я свядома спасылаюся на «хрэстаматыйныя» творы. Ёсць, зразумела, і горшыя, але гэтыя — на вачах ва ўсіх.

У апошнія дзесяцігоддзі не рабілася нават спробы суаднесці стан нашай скульптуры (а таксама іншых відаў мастацтва) не тое, што з сусветным, але і з усесаюзным узроўнем. Мы па звычцы плануем «ад дасягнутага», а дасягненням сваім пры адсутнасці такога параўнання наўрад ці можам даць аб'ектыўную ацэнку.

Пасля з'езда беларускіх мастакоў, дзе ішла сур'ёзная размова і пра зніжэнне цікаўнасці гледача да выяўленчага мастацтва, чакалася, што выстаўка стане пунктам адліку ў дэмакратызацыі мастацкага жыцця рэспублікі, што, нарэшце, выстаўкі будуць рабіцца не для плана, а для гледача. Але ўжо ўводны раздзел, які складалі выключна скульптурныя творы, сведчыў пра тое, што прынцыповых перамен не адбылося. Наведвальнікаў выстаўкі сустракала чарада бюстаў, якія, мабыць, павінны былі сімвалізаваць пераемнасць пакаленняў, стварыць гераічны вобраз нашага часу. Але падабраны работы не па мастацкіх вартасцях (пасля прагляду ўсёй экспазіцыі стала відаць, што выбіраць не было з чаго) — «вобраз часу» атрымаўся вельмі спрошчаны, аднамерны.

Дамінанта ўводнага раздзела — скульптура А. Анікейчыка «Нараджэнне рэвалюцыі». Яна таксама займала гэтае пачэснае месца толькі таму, што ніхто з беларускіх скульптараў не зрабіў твора, які б мог адпавядаць маштабу падзеі— 70-годдзю Кастрычніка. Вось і давялося за адсутнасцю лепшага ўладкаваць на пастаменце работу «на тэму» — скульптуру, на мой погляд, выпадковую і для гэтай экспазіцыі, і ў пэўным сэнсе для самога аўтара.

Анікейчык імкнуўся стварыць алегарычны вобраз: рэвалюцыя прадстаўлена ў абліччы жанчыны, апранутай у нешта сярэдняе паміж... бальнай сукенкай і шынялём. Яна нібы пагрозліва замахнулася сярпом і молатам на нябачнага ворага. Алегорыя атрымалася ледзь не двухсэнсоўная — з пафасам, наогул, трэба асцярожней, бо перабор дае нечаканы, зусім процілеглы задуме эфект. Некаторыя ракурсы «Нараджэння рэвалюцыі» вельмі нагадваюць постаць Маці-радзімы на Мамаевым кургане. Гэта значыць, што скульптура не толькі вобразным ладам, але і формай належыць іншаму часу.



М. КАНДРАЦЬЕЎ. «Алегорыя мастацтва».



Л. ГУМІЛЕЎСКІ. «Сустрэча».



А. ФІНСКІ. «Думка».

У большай ступені адпавядае сённяшнім эстэтычным крытэрыям другая работа Анікейчыка — «За гонар музы». Тут якраз знойдзена мера экспрэсіі, гістарычная дакладнасць у дэталях спалучаецца з мастацкай умоўнасцю агульнага ладу кампазіцыі. Гэта станковая работа, якую хочацца бачыць у манументальным маштабе.

Ёсць пачуццё сучаснасці і ў скульптурах Л. Гумілеўскага. Яны пазнаюцца адразу, і ў той жа час творчая манера скульптара не надакучвае. Новая работа — партрэт народнай артысткі СССР А. Клімавай. А я прыгадваю вобразы Рахманінава і Міколы Гусоўскага. І тут і там вызначальная рыса герояў Гумілеўскага — інтэлігентнасць.

Артыстка ў ролі каралевы. Калі б не дзве тэатральныя маскі, што дэкарыруюць спінку трона, можна было б забыць, што гэта тэатр, а не тронная зала. За вонкавай стрыманасцю гераіні чытаецца вялікая ўнутраная энергія.

Свой пазнавальны почырк мае і С. Бандарэнка. Большасць беларускіх скульптараў можна лічыць паслядоўнікамі «суровага стылю»: абагульненыя, падкрэслена тэктанічныя формы, ніякіх «дробязей». Скульптуры ж Бандарэнкі будуюцца менавіта з «дробязей». У яго партрэтах усё дакладна — ад падэшвы бота да гузіка. А калі ён лепіць, напрыклад, каня, дык і кампазіцыю называе ягонаю мянушкай, бо гэта заўжды канкрэтны конь. Але выпадковых дэталей, якія б супярэчылі задуманаму вобразу, няма. Усё неабходна, усё асэнсавана, усё вылеплена з любоўю. Я б сказаў, што з маленькіх цаглінак скульптар можа стварыць манументальную пабудову. Мабыць, варта згадзіцца з архітэктарамі, якія гавораць, што чым драбнейшы модуль, тым больш варыянтаў гнуткіх спалучэнняў ён дае. Гэта палажэнне слушнае ўвогуле і для выяўленчай пластыкі.

Скульптуры Бандарэнкі «Адэпт» і «Рубеж», што экспанаваліся ў экспазіцыі «Краіны Саветаў», былі прапанаваны яшчэ на сёлетнюю рэспубліканскую маладзёжную выстаўку. Але чамусьці былі адхілены выстаўкомам на апошнім этапе. Дарэчы, скульптура «Пераможца» таго ж аўтара, работа значна слабейшая (для Бандарэнкі гэта ўжо быў пройдзены этап), тады ў экспазіцыю прайшла. Пра густы спрачацца не прынята, але ў дадзеным выпадку трэба было гаварыць пра густаўшчыну...

«Рубеж» — чалавек з пачварна гіпертрафіраванымі мускуламі ў шлеме рымскага воіна. За нейкай рысай, рубяжом ён увогуле губляе чалавечае аблічча, ператвараецца ў машыну.

Новыя пластычныя рысы выявіліся і ў работах А. Мятліцкага — аўтара кампазіцыі «Мадонна». У параўнанні з папярэднімі скульптурамі мадэліроўка формы стала больш канструктыўнай, паменшыліся «вострыя вуглы», надаецца больш увагі сілуэту.

Нестандартнасць мыслення, уменне даць новую і пры гэтым пластычна выразную трактоўку традыцыйнай тэмы (а гэта адзнака прафесіяналізму) прадэманстравалі У. Слабодчыкаў («Голас Ільіча»), А. Фінскі («Думка»). Вобраз У. І. Леніна вырашаны Слабодчыкавым без пафасу, што для беларускай пластыкі з'ява адносна новая. «Думка» Фінскага — вартая ўвагі спроба зрабіць абагульнены партрэт сучаснага навукоўца.

Вобразы слаўных сыноў Беларусі паэта Адама Міцкевіча і воіна Давыда Гарадзенскага выйшлі з-пад разца В. Янушкевіча. Сапраўды паэтычную трактоўку вобраза Алаізы Пашкевіч прапанаваў гледачам А. Дранец. Сугучча з прыродай як галоўная ўмова гарманічнага развіцця чалавека — тэма скульптуры П. Лука «Белавежская пушча». Моладзь не проста цікавіцца мінуўшчынай, а імкнецца да глыбокага асэнсавання гістарычных і культурных каранёў свайго народа.

На заканчэнне гаворкі пра «пазітыўную» частку выстаўкі можна яшчэ прыгадаць арыгінальныя кампазіцыі В. Антановіча «Кірыла Тураўскі» і Г. Гаравой «Дзекабрысты», зварот І. Казака да вобраза Язэпа Драздовіча, своеасаблівую трактоўку вобраза Дантэ А. Саляцкім, ды яшчэ работы С. Гарбуновай («Я дала яму тваё імя») і Л. Давідзенкі («Лета», «Радасць»). Шчыра кажучы, не надта многа для рэспубліканскай выстаўкі...

На другім полюсе экспазіцыі (я маю на ўвазе відавочна няўдалыя скульптуры) работ таксама няшмат. Скульптура А. Курачкіна: будаўнік з гордым выглядам, камандзірскім жэстам распасцёр руку над выкладзеным з цэглы словам «Мір!». Аморфная, тэхнічна бездапаможная «Апасіяната» Ю. Палякова...

Работа А. Бачкарова «Цяжкія дні рэвалюцыі». Незразумела, якія канкрэтна цяжкасці меў на ўвазе аўтар. Гэтую кампазіцыю з такім жа поспехам можна было прысвяціць грамадзянскай вайне, калектывізацыі. Бо постаць голага чалавека са зброяй (у дадзеным выпадку са стрэльбай) можа адпаведна жаданню аўтара сімвалізаваць любы час. Як, дарэчы, і голы ці амаль голы чалавек са сцягам («Паўстанне» У. Канцавога).

Былі на выстаўцы партрэты рэвалюцыянераў са стандартнымі «валявымі» тварамі (А. Бацвінёнак «А. Мяснікоў»). Не забыта і вытворчая тэма — падобныя на вандроўных менестрэляў «Будаўнікі газапровода» В. Лабачэўскага.

Вялікую групу скульптур можна вызначыць як «асацыятыўныя». Напрыклад, твор К. Лышчыка «Чычэрын» паўтарае агульна вядомы партрэт Несцерава работы Корына. Скульптура А. Чыгрына «К. Крапіва» нагадвае пластыку помніка Хасэ Марці ў Гаване. Партрэт лётчыка скульптара Э. Астаф'ева выклікае асацыяцыі з «Фідэлем Кастра» А. Анікейчыка. Я не сцвярджаю, што гэта плагіят. Мабыць, гэта проста няўменне асэнсаваць чужы вопыт. Мастак павінен ведаць гісторыю сусветнай і сваёй нацыянальнай культуры, ведаць, што робіцца ў свеце. Але пры адсутнасці самастойнага мыслення самая сумленная вучоба ўсё роўна прывядзе да падсвядомай кампіляцыі і далей — да свядомага плагіяту.

А паміж гэтымі «палюсамі» сярод твораў, якія засталіся ў памяці (іншая справа — са знакам плюс або мінус),— вялікая колькасць бронзы і гіпсу, што не выклікала ніякіх пачуццяў, акрамя абыякавасці. Гэта ў асноўным так званыя «галовы» — бюсты больш ці менш падобныя да арыгіналаў. Здавалася, што ўсе яны зроблены адною рукою. У гэтай шэрасці растварыліся ўсе астатнія фарбы экспазіцыі.

У мастацкіх выставак кароткае жыццё — ад некалькіх тыдняў да некалькіх месяцаў. Набытыя Міністэрствам культуры ці Саюзам мастакоў работы знаходзяцца ў сховішчы Палаца мастацтваў, астатнія вяртаюцца ў майстэрні мастакоў. Застаюцца толькі ўражанні ў памяці гледачоў — і нявырашаныя пытанні, галоўнае з якіх: для каго робяцца выстаўкі?

Мне даводзілася бываць на абмеркаваннях экспазіцый у Палацы мастацтваў. І амаль кожны раз, калі канстатаваўся непрыемны факт, што выстаўка не мела грамадскага рэзанансу, вінаватых знаходзілі ў цэху мастацкай крытыкі. Маўляў, мастацтвазнаўцы не асвятлілі падзею ў прэсе, не выказалі сваіх меркаванняў своечасова, не зацікавілі гледача. Але ж, мне здаецца, што ў шэрагу выпадкаў, калі б мастацкія крытыкі выканалі ўсё, што ад іх патрабуюць і зрабілі гэту справу сумленна, дык наведвальнікаў у залах Палаца было б яшчэ меней. Бо аб'ектыўны агляд быў бы для многіх выставак дрэннай рэкламай.

Калі мастак абыякавы да гледача, глядач абыякавы да такога мастацтва.

Так, сапраўды — беларуская скульптура перажывае не самую лепшую сваю часіну. І ў той жа час нельга забываць, што ў нас ёсць традыцыі, вопыт і таленавітыя майстры сярод моладзі, сярод старэйшага і сярэдняга пакаленняў. Час працуе на прагрэсіўныя перамены. Аздараўленне сацыяльна-палітычнага стану краіны, безумоўна, адаб'ецца і на выяўленчым мастацтве. Хацелася б, каб аб'ектыўны мастацтвазнаўчы аналіз стаў першай ластаўкай у рашэнні набалелых пытанняў мастацкай творчасці.

У экспазіцыях мастацкіх выставак адлюстраваны ўсе нашы надзённыя праблемы, і творчыя, і арганізацыйныя. Напэўна, з выставак і варта пачынаць іх вырашэнне...

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ.**

**СТО РАДКОЎ ПАСЛЯ ПРЭМ'ЕРЫ**

# ВЕРШАМ НАСПЕЛА ПАРА

**«Тры ўзросты Казановы» М. Цвятаевай. Сцэнічная кампазіцыя і пастаноўка Я. Сіманава. Рэжысёр—Я. Князеў. Мастак—Б. Месэрэр.**

**Гродзенскі абласны драматычны тэатр. 13 лістапада 1987 года.**

Мы яшчэ не паспелі прызвычаіцца да таго, што займелі магчымасць па-сапраўднаму знаёміцца з творчасцю Марыны Цвятаевай, а тэатр ужо прапануе сваё вобразнае асэнсаванне свету цвятаеўскай паэзіі. Тэатр праспешвае нас і, здаецца, нездарма. Спектакль гродзенцаў бышцам перасцерагае, каб у нашым сённяшнім імклівым жыцці не згубілася самае адвечнае, самае ўзвышанае пачуццё... Каханне.

...Далёкае XVIII стагоддзе. Прыгоды таямнічага Казановы пададзены праз тры моманты яго жыцця, візначаны і азораны непаўторнай індывідуальнасцю паэта. І гістарычная аддаленасць, і аўтарская адметнасць паэтычнай мовы ўгадваюцца з першай сцэны пралога. Скупое чорнае адзенне сцэны, чароўная музыка, дзівосная мелодыя слоў, рытмічна выверанныя мізансцэны—усё гэта ўтварае напаўфантастычную, напаўрэальную атмасферу спектакля. Уражвае і незвычайнасць абставін, і сапраўднасць чалавечых пачуццяў.

Акцёрскае выкананне адпавядае агульнай танальнасці спектакля. На жаль, формы цвятаеўскіх вобразаў, не падмацаваныя выразным сцэнічным дзеяннем, часам успрымаюцца статычна, самі па сабе. Іх паэтычную напоўненасць важна арганічна спалучыць з акрэсленым драматызмам ролі. Тады, здаецца, характары на сцэне набудуць глыбіню і ёмістасць.

Здольны лашырыць межы сцэнічнага існавання свайго героя В. Мірны—знойдзены ім выразны знешні малюнак ролі 27-гадовага Казановы сведчыць пра неардынарнасць і супярэчлівасць гэтай чалавечай натуры. Каштоўна, што ўжо ў маладым Казанове акцёр выяўляе пэўныя адзнакі будучай старасці. Аднак (і пра гэта трэба памятаць), паводле самой Цвятаевай, ягоны герой—«востры вугал». І тут сцэнічнаму вобразу нестае эмацыянальнай узрушанасці, душэўнага парывання.

У прэм'ерным паказе цяжка дакладна вызначыць сутнасць другога ўзросту Казановы—40 гадоў. Ролю яго выконвае Э. Мурашоў. Акцёр тонкага псіхалагічнага складу, ён на гэты раз абмежаваў сваё выкананне пэўнай сузіральнасцю. Аднак наўрад ці толькі ёю адною вычэрпваецца створаны Цвятаевай характар.

І першы, і другі «ўзросты»—гэта метафарычныя старонкі жыцця, якія ўспыхваюць у памяці 73-гадовага Джакома Казановы. А. Акчурын, акцёр кідкага імпульсіўнага тэмпераменту, відаць, свядома ідзе на рызыку, спрабуючы сябе ў новай якасці, нечаканай і бадай што процілеглай усяму, сыгранаму дагэтуль. Увогуле, задача акцёру, пэўна, па сілах, толькі цяпер яна вырашаецца крыху фармальна. Адчуваецца не столькі ўнутраная засяроджанасць персанажа, колькі знешняя скаванасць выканаўцы.

Сустрэча з вялікай літаратурай і высокапрафесійнай рэжысурай стала неабходнай тэатру. Яна здольна стаць патрэбнай гледачу.

**Ала САВІЦКАЯ.**



Народны артыст СССР Я. СІМАНАЎ (справа) з акцёрамі Л. ВОЛКАВАЙ і Э. МУРАШОВЫМ пад час рэпетыцыі.
Фота А. КАСАРСКАГА.

# СМОГ

**(Заканчэнне. Пачатак на стар. 4).**

Кантралюючыя органы? Кантроль ускладзены ў асноўным на гідраметэаслужбу рэспублікі, якую тут прадстаўляе інспектар Лідзія Данілаўна Петрусенка—я вам пра яе ўжо крыху расказаў. Ёсць і лабараторыя, якая фіксуе забруджванне паветра. Вось і ўсе сілы. Петрусенка — жанчына энергічная, валявая, кампетэнтная, сама хімік па адукацыі, але паспрабуй прабі ведамасную сцяну, якая паўстае перад табой на кожным кроку. Якія ў яе правы? Можа аштрафаваць вінаватага. Ды, аказваецца, зрабіць гэта практычна не так проста.

— Пастанову аб штрафе павінна выносіць па маім прадстаўленні адміністрацыйная камісія гарвыканкома ды яшчэ патрабуецца для гэтага прысутнасць двух сведкаў таго парушэння. Сярод членаў камісіі ёсць людзі, у пытаннях экалогіі абсалютна недасведчаныя. І вось пачынаецца: «А мо пашкадуем, мо хопіць папяраджання...» Вось і нядаўні выпадак. Склала я акт на начальніка факельнай гаспадаркі «Паліміра» Івана Пятровіча Лявыкіна за тое, што не пракантраляваў, як спальваюцца на факеле вуглевадародныя сумесі, у выніку чаго былі намнога перавышаны МДВ. Прычым здарылася гэта двойчы з невялікім інтэрвалам. Дык вось прашу аштрафаваць яго на 25 рублёў, а камісія згаджаецца толькі на 15. Не паверыце, але пасля гэтага Лявыкін звоніць мне па тэлефоне і пагражае судом.

Я пазнаёміўся з Іванам Пятровічам, калі быў на «Паліміры». Хударлявы, сярэдніх гадоў інжынер.

— Дык я чакаю павестку ў суд, Лявыкін, — здзекліва кажа Петрусенка, з якой мы прыйшлі разам. — Пры карэспандэнце кажу.

Лявыкін пачырванеў, замітусіўся, пачаў перабіраць паперы на стале.

— Але ж несправядліва мяне аштрафавалі, Лідзія Данілаўна, — паскардзіўся ён тонкім галаском. — Несправядліва. У нас тады на факеле сапсавалася ўстаноўка, а вы мяне...

Едзем на факел. Петрусенка, я і інжынер, якога прыкамандзіраваў да нас Іван Пятровіч (сам не паехаў, прыкрыўся нейкай тэрміновай справай). Што такое факел, факельная гаспадарка? Вялізная печ, у якой спальваюць адыходы вытворчасці. На «Паліміры», гэта, напрыклад, у асноўным сульфатныя сцёкі. Хай вас не бянтэжыць слова «сцёкі». Трэба пазбавіцца ад стэрэатыпу, што яны нешта процілеглае агню. Калі ўлічыць, што асноўная сыравіна, якая ідзе тут на выраб прадукцыі, — розныя фракцыі нафты, дык усё становіцца на сваё месца. Але ўсё роўна, са спальваннем тых сцёкаў не ўсё так проста. Трэба ўмець спальваць, каб агонь зжэр усё шкоднае, каб не чадзіла. Існуе для гэтага пэўная тэхналогія, якую трэба строга вытрымліваць, інакш праз дзве вялізныя цагельныя трубы факела вырвецца ў неба сярністы ангідрыд (ён, дарэчы, спрыяе захворванню органаў дыхання). І яшчэ адна тэхналагічная дэталь. Інтэнсіўнасці спальвання спрыяе сухая пара, якую выдзьмуваюць у полымя. Не дадай пары — з трубы паваліць чорны дым.

Як толькі мы зайшлі ў апаратную факела, адразу ўбачылі жанчыну ў чорным камбінезоне, якая, стоячы на падаконніку перад адчыненым акном, задраўшы галаву, глядзела некуды ў неба. Потым саскочыла і пачала нешта шпарка круціць на шчыце, што перагароджваў пакой. Знаёмімся. Апаратчыца факела Валянціна Кірпічэнка. Што яна рабіла на акне? Назірала за трубамі: які з іх ідзе дым. Калі чорны, трэба дадаць пары.

— А калі на двары туман, ідзе снег, дождж, наогул ноччу, як вы бачыце, які дым — чорны ці светлы? — цікаўлюся я.

— А што рабіць? — адказвае апаратчыца.

Аказваецца, на прадпрыемстве, многія цэхі якога абсталёўвалі, манціравалі японскія і італьянскія фірмы, няма звычайнага расходамера, які б даваў карціну таго, колькі спальваецца сцёкаў, колькі сярністага ангідрыду выкідваецца ў неба, няма аўтаматыкі, якая б рэгулявала падачу пары. Гэта ў той час, як, па словах апаратчыцы, падача сульфатных сцёкаў для спальвання ідзе хаатычна. Бывае зусім нічога няма, а бывае — сотні тон. Гэта адбываецца, калі ў цэху сапсуецца, напрыклад, устаноўка, і сыравіну, якая да яе бесперапынна падавалася, прыходзіцца тэрмінова «скідваць» на факел.

Па справаздачах «Паліміра» тут выкідваецца ў паветра 4,5 тысячы тон сярністага ангідрыду. Дадонава мне даводзіла, што ў агульнай колькасці шкодных выкідаў усяго прамысловага вузла, гэта не так ужо і многа. Ды толькі ж дзе гарантыя, што фактычная лічба не пераўзыходзіць у шмат разоў гэтую справаздачную? Падлічваюцца ж выкіды, як мы бачым, прыблізна, на вока...

У КАБІНЕЦЕ Петрусенка я пазнаёміўся з дакументамі, якія фіксуюць парушэнні закона аб ахове атмасфернага паветра. Вось некалькі вытрымак. «На заводзе жалезабетонных вырабаў у верасні рабілася выпальванне бітуму з катла пад адкрытым небам, у выніку чаго адбыўся залпавы выкід шкодных рэчываў». «Прамывачна-прапарачная станцыя спальвае пад адкрытым небам вытворчыя адыходы; калі прапарваюцца цыстэрны, адбываецца значная ўцечка бітуму ў водаадводную канаву, а адтуль у раку Ушачу». «На вытворчым аб'яднанні «Наваполацкнафтааргсінтэз» другі год не асвойваюцца сродкі для герметызацыі нафтаўлоўнікаў сістэмы каналізацыі ачышчаных збудаванняў».

Дарэчы, гэтае аб'яднанне дае самую вялікую колькасць шкодных выкідаў у паветра — 102 тысячы тон у год з усіх 180 тысяч, якія выкідвае ў паветраны басейн над Наваполацкам увесь прамысловы вузел — акурат па 2 тоны на чалавека.

— Гэта часова ўзгодненыя межы дапушчальных выкідаў, — растлумачыла мне загадчыца аддзела аховы прыроды прадпрыемства Валянціна Іванаўна Бародзіч.

Тады я ўпершыню пачуў пра гэтыя загадкавыя часова ўзгодненыя МДВ.

Думаю, нават чытач далёкі ад гэтых «матэрый», разумее, што пры ўстанаўленні межаў дапушчальных выкідаў таго ці іншага рэчыва зыходзяць з факта бясшкоднасці яго канцэнтрацыі ў паветры. Цяпер уявіце сабе, што прадпрыемству, якое выкідае ў неба, напрыклад, сярністы ангідрыд, мяжу ці, інакш кажучы, квоту на гэты выкід — павялічваюць, г. зн. «на законных падставах» дазваляюць забруджваць паветра ў больших памерах. Не, не, дазвол гэты часовы. З чаго пры гэтым зыходзяць? З наяўнасці на прадпрыемстве прыродаахоўнага абсталявання, наогул, стану ўсёй вытворчай тэхнікі. Маўляў, калі ў вас няма ўмоў зменшыць шкодныя выкіды, — мы пачакаем, пакуль гэтыя ўмовы ў вас з'явяцца. А да гэтага ўстановім вам часова дапушчальныя межы. Колькі можа цягнуцца гэтае «часова»? Ніхто не ведае. Як на тым «Паліміры» — спачатку меркавалі, што ўстаноўка па утылізацыі сульфатных сцёкаў будзе пабудавана ў 1988 годзе, цяпер гэтае будаўніцтва вымушаны перанесці на дзевяностыя гады (на ўвесь гэты час расцягнуцца і тыя «часова ўзгодненыя межы»).

ПРАДБАЧУ пытанне, а як жа да гэтай небяспечнай экалагічнай абстаноўкі ў Наваполацку ставяцца мясцовыя ўлады? Мы доўга гутарылі на гэтую тэму са старшынёй Наваполацкага гарвыканкома Уладзімірам Уладзіміравічам Бічаніным. На пачатку гаворкі ён параіў мне прачытаць у гарадской газеце «Хімік» артыкул дырэктара завода бялкова-вітамінных канцэнтратаў В. Канобрыя.

— Дырэктар пераканаўча даводзіць, што размовы аб забруджванні атмасфернага паветра часта не маюць пад сабой падставы, — гаворыць старшыня гарвыканкома.

У такім ключы У. Бічанін і скіроўваў нашу гутарку. Я спытаў у гаспадара кабінета, як ён ацэньвае выкладзеныя міністрам аховы здароўя СССР Я. І. Чазавым факты рэзкага павелічэння захворванняў насельніцтва Наваполацка? Уладзімір Уладзіміравіч паціснуў плячамі і перамяніў тэму гаворкі. Пачаў скардзіцца на тое, што ніяк не ўдаецца дабіцца згоды інстанцый правесці ў горад прыродны газ, што ў Наваполацку надзвычай нізкая якасць пітной вады, якую бяруць з вельмі забруджанай Заходняй Дзвіны, што гарадская гаспадарка адчувае пастаянны фінансавы дэфіцыт.

— Не разумею, навошта было выступаць супраць будаўніцтва Даўгаўпілскай ГЭС? — раптам пытаецца Уладзімір Уладзіміравіч. — Мінэнерга СССР вельмі багатая арганізацыя і грошай яна не шкадавала, нават нам абяцала падкінуць у якасці кампенсацыі немалую суму, за якую мы ўжо намерваліся пабудаваць у горадзе набярэжную.

Я слухаў яго і думаў аб тым, што старшыня гарвыканкома не мог не ведаць пра тое, што пераважная большасць жыхароў вёсак, размешчаных у зоне маючага адбыцца затаплення (яна павінна была ахапіць і значную частку Полаччыны), была супраць перасялення з абжытых мясцін. Мінулай зімой мне давялося сустрэцца з некаторымі з гэтых людзей, бачыць іх слёзы і адчай. І сумна мне цяпер станавілася ад думкі, што ў душы старшыні гарвыканкома тая набярэжная павінна была ўсё гэта пераважыць...

Гэтакі голы прагматызм... Мне здаецца, што ён ляжыць і ў аснове палітыкі, якую кіраўнікі горада праводзяць у адносінах прамысловага вузла. Горад жа будуецца за кошт прамысловых прадпрыемстваў. Але ж даўно трэба было ўзважыць, ці не вельмі вялікую цану даводзіцца за гэта плаціць, разлічваючыся здароўем людзей.

Між іншым, даклад акадэміка Чазава на рэспубліканскім актыве тут, у Наваполацку, вырашылі, мякка кажучы, не прапагандаваць. Я спыніў на вуліцы некалькі прахожых — ніхто з іх пра гэты даклад нават не чуў. Такую ж карціну я нагледзеў і ў рабочым асяроддзі на «Паліміры», на аб'яднанні «Наваполацкнафтааргсінтэз». Скажу больш, рабочыя, як я ўпэўніўся, наогул маюць вельмі цьмянае ўяўленне аб шкоднасці хімічных рэчываў, якімі ім даводзіцца дыхаць на працы і дома.

У адзін з цэхаў «Наваполацкнафтааргсінтэзу» мы з Л. Петрусенка зайшлі літаральна праз некалькі хвілін пасля таго, як тут спыніўся цёк фенолу ў трубаправодзе. У паветры стаяў востры, мне падалося, часночны пах. Лідзія Данілаўна папярэдзіла, што фенол — страшэнная атрута, ад якой можа здарыцца ацёк лёгкіх. Гутарым з выконваючым абавязкі начальніка фенольнай гаспадаркі А. Плютам. Па ўсім відаць — тое, што здарылася, на яго ніякага ўражання не зрабіла, як і на рабочых, што стаялі побач, прыслухоўваючыся да нашай размовы і кідаючы час ад часу рэплікі: «Усяго не ўгледзіш, тэхніка старая, даўно выпрацавала свой рэсурс». «Наш арганізм да ўсяго прывычаены, ніякая атрута не возьме...».

Відаць, такой думкай кіраваліся прафсаюзныя дзеячы аб'яднання, па ініцыятыве якіх на заводскім двары пабудавалі цяпліцу для вырошчвання гуркоў і памідораў, што ідуць у продаж рабочым, у сталоўку. Я расказаў пра гэтую цяпліцу работнікам гарадской санстанцыі, і яны мне растлумачылі, што гэтая гародніна ўтрымлівае самыя розныя яды, якія ўсмоктвае з заводскага паветра.

Ох, сумна мне стала ад усяго гэтага...

Пад канец нашай гутаркі У. Бічанін сказаў, што кіраўніцтва раёна выступае супраць намераў прамысловых прадпрыемстваў пашыраць сваю вытворчасць, у прыватнасці, супраць будаўніцтва новых цэхаў нафтаперапрацоўкі, хіміі, мікрабіялогіі.

Праўда, мне падалося, што ў яго словах не было асаблівай упэўненасці...

Амаль увесь тыдзень майго знаходжання ў Наваполацку стаяла хоць халаднаватае, але сонечнае надвор'е. А ў пятніцу, калі ад'язджаў, з раніцы неба зацягнула хмарамі, зацерушыў дождж, паветра, насычанае вільгаццю, стала цяжкім, застравала ў горле. Людзі ішлі пад парасонамі, заклапочана пазіраючы на неба. На горад насоўваўся смог.

НА АБСЯГАХ КУЛЬТУРЫ

# АДКРЫЦЦІ ДЭКАДЫ



Спектакль «Змова» Г. Марчука ў пастаноўцы мазыран. Лявон Патрубейка — М. Колас, Галя — Н. Кунцэвіч.

Адзін са старэйшых аматарскіх калектываў рэспублікі Мазырскі народны тэатр паказаў на сцэне Палаца культуры Мінскага тонкасуконнага аб'яднання імя Ц. Я. Кісялёва сваю новую работу — спектакль па п'есе Г. Марчука «Змова» («Альдона, Анэта, Анфіса,..»).

Прэм'ера, якая адбылася ў рамках І Дэкады самадзейнага і прафесіянальнага тэатральнага мастацтва, прысвечанага 70-годдзю Вялікага Кастрычніка, выклікала цікавасць у гледача. У гэтым немалая заслуга рэжысёра, заслужанага работніка культуры БССР М. Коласа, адначасова выканаўцы адной з галоўных роляў. Няблага ўвасобілі вобразы і ветэраны аматарскай сцэны М. Тарсенка, В. Казлоўская, З. Нагорная і іншыя, а таксама маладыя выканаўцы.

Дэкада парадавала і іншымі прэм'ерамі. Свае новыя работы паказалі народныя тэатры — Палаца культуры энергетыкаў г. Новалукомля («Радавыя» А. Дударава), Слуцкага ГДК («Паўлінка» Я. Купалы), Слонімскага ГДК («Халімон камандуе парадам» У. Сауліча), Маладзечанскага ГДК («Суд Алаізы» В. Коўтун), Шумілінскага ГДК («Іван і мадонна» А. Кудраўцава) і іншыя.

П. ГАРДЗІЕНКА.



Народны тэатр Краснапольскага РДК пазнаёміў сталічнага гледача з «Вечарам» А. Дударава. Мульцік — В. Ермаловіч, Ганна — Н. Ваўчок, Гастрыт — А. Горзін.

Фота Ул. КРУКА.

# З УЗНАГАРОДАЙ!

За заслугі ў развіцці музычнага мастацтва і ў сувязі з пяцідзесяцігоддзем з дня нараджэння Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР узнагародзіў салістку оперы Дзяржаўнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларускай ССР, народную артыстку Беларускай ССР ЗЛАТАВУ Людмілу Іванаўну Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Беларускай ССР.

## ВЕЧАРЫ, СУСТРЭЧЫ



У Доме літаратара адбылася прэм'ера кнігі Алеся Емяльянава «На падкове дарог». Вядучы вечара сакратар праўлення СП БССР В. Зуёнак, а таксама К. Камейша, П. Прыходзька, мастак Р. Сітніца гаварылі аб ідэйна-мастацкіх вартасцях вершаў А. Емяльянава, адзначалі плённасць яго творчых пошукаў.

Творы А. Емяльянава гучалі ў выкананні артыстаў мінскіх тэатраў. Адбылася прэм'ера песень, напісаных на вершы А. Емяльянава кампазітарам Л. Мурашкай і самадзейным кампазітарам Л. Нямчынавай.

Алесь Емяльянаў прачытаў свае творы, адказаў на пытанні прысутных.

Тэкст і фота
Ул. КРУКА.

# ВЫДАЕ «ЧЫРВОНКА»

Гэтую невялічкую, у восем староначак кніжку з задавальненнем узялі ў рукі многія, хоць пра набыццё яе і не думалі. Проста, разгарнуўшы чарговы нумар газеты «Чырвоная змена» (за 24 лістапада 1987 года), з прыемнасцю даведаліся, што такая кніжка ўжо ёсць — дастаткова толькі выразаць старонкі з газеты. Пра астатняе паклапаціліся супрацоўнікі рэдакцыі, надрукаваўшы творы членаў літаратурнага аб'яднання «Крынічка», якое працуе ў Мінскай сярэдняй школе № 30 пад кіраўніцтвам настаўніка мовы і літаратуры Сяргея Валянцінавіча Дубовіка.

Свята першага твора, што адбылося ў рэдакцыі, сабрала пяцікласнікаў, якія спрабуюць пісаць. Першыя апавяданні, вершы Ганны Садоўскай, Марыны Підчанкі, Машы Каверкінай, Алега Клімковіча, Аляксея Сакалоўскага, Тані Барашкі, Ігара Якавішына, Аляксея Нікіфаровіча і склалі гэты зборнічак. Прадстаўляе юных аўтараў паэтэса Раіса Баравікова, літаратурны кансультант «Чырвонкі». «Гэта толькі пачатак, — піша яна ў невялічкай прадмоўцы. — Спадзяёмся, што ў будучым да нашага Свята падключацца юныя творчыя сілы і іншых школ, і не толькі пачынаючыя паэты і празаікі. У сценах рэдакцыі на гэтым свяце мы хацелі б бачыць і юных мастакоў, і юных музыкантаў. Але гэта ўсё наперадзе».

Пачатак заслугоўвае ўхвалы. Пачакаем чарговых кніжак, «выдадзеных» «Чырвонай зменай»!

# ДУБЛІРАВАНЫ НА ЧУВАШСКУЮ МОВУ

У кінагледачоў вялікім поспехам карыстаецца двухсерыйны мастацкі фільм «Знак бяды», створаны рэжысёрам М. Пташуком на кінастудыі «Беларусьфільм» паводле аднайменнай аповесці Васіля Быкава. У нас, у сталіцы Чувашскай АССР горадзе Чэбаксары, у кінатэатры «Сеспель» адбылася прэм'ера гэтага фільма, дубліраванага на чувашскую мову.

Перад сеансам выступілі чувашскія акцёры, удзельнікі дубляжу. Заслужаны артыст РСФСР М. Сцяпанаў, заслужаныя артысты Чувашскай АССР А. Смялова і І. Іваноў падзяліліся з гледачамі ўражаннямі аб карціне, расказалі пра сваю акцёрскую працу, адкрылі «сакрэты» пераагучвання фільма.

Прэм'ера прайшла з вялікім поспехам.

Г. МЫЦІКАЎ,
ветэран вайны і працы.
Чувашская АССР.

---

## *У бліжэйшых нумарах «ЛіМ» друкуе:*

апавяданні А. ВАСІЛЕВІЧ, В. ШАТАВАЙ, М. РАКІТНАГА;

вершы П. ПАНЧАНКІ, Р. БАРАДУЛІНА, В. АКОЛАВАЙ, В. КОЎТУН, А. РАЗАНАВА, Я. СІПАКОВА;

пераклады твораў А. МІЦКЕВІЧА, Г. ГЕЙНЭ, Э. ФРОМА, амерыканскіх паэтаў, сучасных кітайскіх пісьменнікаў;

артыкул М. МУШЫНСКАГА ў новай рубрыцы «Старонкі класікі: новае прачытанне», нататкі А. КАЎКО пра скарынаўскія традыцыі ў новай беларускай літаратуры, развагі С. ДУБАВЦА над старонкамі Збору твораў М. ГАРЭЦКАГА;

хроніку мастацкага жыцця рэспублікі, нататкі, рэцэнзіі, інтэрв'ю і рэпартажы, прысвечаныя навінам тэатра, музыкі, кіно;

традыцыйныя падборкі чытацкіх лістоў.

---

ЛЯ КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ

# «БРАТЭРСТВА»-87

Чарговы выпуск штогодніка «Братэрства» — яго, як вядома, рыхтуе выдавецтва «Мастацкая літаратура» — прысвечаны 70-годдзю Вялікага Кастрычніка. Адкрываецца ён падборкай твораў, што раскрываюць тэму рэвалюцыі, паказваюць пераможнае шэсце Савецкай улады, апяваюць дружбу народаў.

Да 150-годдзя з дня смерці А. С. Пушкіна прапануюцца яго творы ў перакладзе М. Багдановіча, Я. Коласа, Я. Купалы. Працягваецца знаёмства чытача з літаратурамі народаў СССР: падборка твораў якуцкіх паэтаў (пераклад У. Правасуда), паэзія Карэліі (пераклад Я. Лапаткі), а таксама творы рускіх, украінскіх, грузінскіх, узбекскіх, туркменскіх, башкірскіх аўтараў.

У зборніку чытач знойдзе мініяцюры Ю. Бондарава (пераклад У. Ягоўдзіка). Роздум пра жыццё чалавека, думкі пра зямлю, будучыню і мінуўшчыну гучаць у паэме Э. Межэлайціса «Дванаццаць крыніц» (пераклад А. Разанава). Апавяданне Э. Вілкаса «Веласіпед» (пераклад В. Сёмухі) не абмяжоўваецца гісторыяй узаемаадносін дзяцей і дарослых, бо аўтар ставіць агульначалавечыя праблемы.

Цёплыя словы пра наш край гучаць у творах Р. Гамзатава, В. Аванесяна, К. Куліева, Д. Кавалёва, Г. Гарбоўскага, С. Сяітава і іншых (пераклад Р. Барадуліна). Зборнік адзначае юбілеі М. Танка, П. Панчанкі, Я. Брыля.

У раздзеле «У лучнасці братняй» — артыкул П. Панчанкі «Падпярэзаная сіняй Даўгавай» — пра сустрэчы аўтара з латышскімі пісьменнікамі. Пытанням інтэрнацыянальных сувязей прысвечана даследаванне М. Мушынскага «Мы дружбай навекі з'яднаны». Фотарэпартаж Ул. Крука «Хада гадоў» — своеасаблівы летапіс творчага жыцця на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў. Дапаўняе гэтыя публікацыі «Хроніка літаратурнага жыцця», падрыхтаваная А. Мазанік.

У «Вясёлай сябрыне» — шаржы і вершаваныя ўспаміны пра савецкіх пісьменнікаў розных пакаленняў.

Завяршаецца штогоднік традыцыйнай рубрыкай «Хроніка перакладных выданняў» і раздзелам «Наш конкурс» — на гэты раз чытачам прапаноўваецца паспаборнічаць з самім А. Куляшовым у перакладзе на беларускую мову верша М. Лермантава «Ветразь».

Н. ШАРАНГОВІЧ.

АБ'ЯВЫ

## Запрашае Дом літаратара

4 СНЕЖНЯ — вечар з цыкла «Паэтычная пятніца». «Любіць» (літаратурны канцэрт па творах Анатоля Вярцінскага). Выканаўца — артыстка Белдзяржфілармоніі Галіна Дзягілева.

10 СНЕЖНЯ — сустрэча з маладымі беларускімі пісьменнікамі — удзельнікамі Таварыства маладых літаратараў пры Саюзе пісьменнікаў БССР.

11 СНЕЖНЯ — вечар з цыкла «Па старонках літаратуры і гісторыі». «Ефрасіння Полацкая» (спектакль народнага тэатра чытальнікаў «Жывое слова» Мінскага педагагічнага інстытута імя М. Горкага паводле аповесці В. Іпатавай «Радаслава»).

15 СНЕЖНЯ — «У спадчыну шчыры радок». Вечар дабрачыннасці ў Беларускі фонд культуры. Білеты прадаюцца. Звяртацца па тэл. 34-52-68.

17 СНЕЖНЯ — вечар, прысвечаны 70-годдзю з дня нараджэння Міколы Сурначова і 70-годдзю з дня нараджэння Уладзіміра Рагуцкага.

*Пачатак вечароў у 19 гадзін.*

*Уваход па запрашальных білетах. Звяртацца па тэл. 36-95-73, 36-09-09, альбо па адрасе: Мінск, вул. Фрунзе, 5, пакоі 208, 209.*

22 СНЕЖНЯ — творчы вечар Івана Бурсава.

24 СНЕЖНЯ — чарговыя заняткі Народнага вячэрняга універсітэта літаратуры.

25 СНЕЖНЯ — творчая сустрэча з пастановачнай групай новага мастацкага фільма «Нецярпенне душы» (вытворчасць кінастудыі «Беларусьфільм», рэжысёр - пастаноўшчык Валерый Панамароў, аўтары сцэнарыя Яўген Радкевіч і Юлій Ніколін).

29 СНЕЖНЯ — навагодні вечар.

31 СНЕЖНЯ — навагодні ранішнік для дзяцей.

Пачатак у 11 гадзін.

## БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ ТЭАТРАЛЬНА-МАСТАЦКІ ІНСТЫТУТ

**аб'яўляе конкурс на замяшчэнне вакантных пасад для асоб, якія маюць мінскую прапіску:**

прафесара кафедры манументальна-дэкаратыўнага мастацтва — на 0,25 стаўкі (1);

дацэнтаў кафедр: дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва — на стаўку (1); майстэрства акцёра і рэжысуры — на стаўку (1) і на 0,25 стаўкі (1); малюнка — на 0,25 стаўкі (1);

старшых выкладчыкаў кафедр: графікі — на стаўку (1);

выкладчыкаў кафедр: малюнка — на стаўку (1); прамысловага мастацтва — на стаўку (1); інтэр'ера і абсталявання — на стаўку (1).

Тэрмін конкурсу — адзін месяц з дня апублікавання аб'явы. Дакументы накіроўваць на імя рэктара інстытута на адрас: 220600, ГСП. Мінск, Ленінскі праспект, 81.

## БЕЛАРУСКАЯ ОРДЭНА ДРУЖБЫ НАРОДАЎ ДЗЯРЖАЎНАЯ КАНСЕРВАТОРЫЯ ІМЯ А. В. ЛУНАЧАРСКАГА

**аб'яўляе конкурс на замяшчэнне вакантнай пасады прафесарска-выкладчыцкага складу (для тых, хто мае мінскую прапіску):**

1. Выканаўчы факультэт.
Кафедра аркестравага дырыжыравання.
Дацэнт — 0,5

Тэрмін падачы заяў — адзін месяц з дня апублікавання аб'явы. Дакументы згодна палажэнню аб конкурсе накіроўваць на імя рэктара на адрас: 220030, г. Мінск, вул. Інтэрнацыянальная, 30. Даведкі па тэл. 22-49-42.

## КОНКУРС ПРАДОЎЖАНЫ

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» паведамляе, што тэрмін прадстаўлення работ на конкурс на мастацка-паліграфічнае афармленне серыі «Скарбы сусветнай літаратуры» працягнуты да 15 снежня 1987 года.

Умовы конкурсу былі надрукаваны ў штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва» 17 ліпеня г. г. на стар. 13. Па даведкі звяртацца ў выдавецтва па тэлефоне 23-91-24.




**Васіль ВЕРАСОК**

# ДРУГ ПРЫРОДЫ

Пісьменнік Сцяпан Савоська сабраўся паехаць у грыбы. Напярэдадні вечарам усё, што трэба для паездкі, падрыхтаваў, а каб не праспаць, завёў будзільнік.

Увесь той вечар Савоська ў прадчуванні багатай здабычы лясных дароў быў у прыўзнятым настроі. Грыбы, калі ўлёгся ў ложак, так і мільгалі перад вачамі, і кожны грыб заманьваў да сябе — вось я, зразай, кладзі ў кошык...

Вось і лес, куды звычайна ездзіў Савоська. Але на гэты раз ён не пазнаў яго. Дзе раслі вялікія дрэвы, цяпер свежанькія пні бялелі. І не толькі баравіка, а нават сыраежку не знаходзіў Савоська. Хадзіў, хадзіў ён па лесе, а кошык пусты. Ды і лес пусты, без грыбоў.

— Ау, грыбы, дзе вы? — не вытрымаў Савоська, закрычаў. — Дрэвы, дзе вы?

І на здзіўленне Савоські чалавечымі галасамі яму адказалі пні.

— Гэта ты вінаваты, што лес спілавалі і што грыбы не растуць. Ты — вораг лесу.

— Я? Ды я ніводнага дрэва ніколі наўмысна не зламаў. І дроў мне не трэба. У кватэры ў мяне цэнтральнае ацяпленне. Я — друг лесу, друг прыроды. У сваіх кнігах заклікаю берагчы лес. Яму прысвяціў цэлы раман «Шумяць бярозы».

— Во, во, — пачуў Савоська адказ,— на твой раман і спляжылі столькі дрэў. Каб яго выдаць, на паперу спатрэбілася спілаваць ажно восем гектараў лесу. А ты ж выдаешся і перавыдаешся кожны год. Нядаўна вунь збор твораў у шасці тамах грымнуў кнігарням на паліцы. Ды якім вялікім тыражом, хоць падпісчыкаў было — цю-цю! — толькі некалькі дзесяткаў. Усе склады і кнігарні забіў сваімі шасцітомнікамі. Праўда, палёгка лесу ад тваіх шасцітомнікаў усё ж будзе, яны пойдуць у макулатуру і ўратуюць некалькі гектараў жывых дрэў.

— Дык што ж рабіць? — разгубіўся Савоська.

— Не пішы. І ты прынясеш карысць і прыродзе, і людзям, якія, браток, цябе не чытаюць, хоць ты і вунь якую гучную пасаду займаеш. Калі не будзеш пісаць, станеш нашым сапраўдным лясным другам. Свае шасцітомнікі, што ляжаць на складах і не прачытаныя на паліцах бібліятэк, выкупі і здай у макулатуру. Гэтым і паможаш лесу. А будзе лес, будуць і грыбы. Не паслухаешся, ніводзін грыб не трапіць табе ў кошык.

Пачухаў Сцяпан Савоська патыліцу і пакляўся не пісаць больш раманаў.

І во цуд! Лес умомант пагусцеў і грыбоў у ім з'явілася столькі, хоць касой касі. Ды ўсе баравічкі, крамяныя, крэпенькія, чысценькія. Любата!

— Да званка збірай, — сказаў яму лясны голас.

...І рэзкі, моцны званок будзільніка ўдарыў Савоську па вушах. Ён прачнуўся, ускочыў з ложка.

— Ух ты, што прыснілася, — сказаў ён жонцы, якая таксама падхапілася ад звону будзільніка.

Савоська расказаў ёй пра сон і ўзрадаваўся, што гэта ў сне, а не наяве, ён пакляўся не пісаць раманаў і не выдавацца.

— Не пісаць, каб лес быў і грыбы ў ім раслі? — здзівіўся Сцяпан Савоська. — Не, дудкі! Лепш я нагой не ступлю ў той лес, а пісаць і выдавацца буду. На ліха мне здаліся тыя грыбы-грыбочкі.

І раманіст, навеліст, крытык і эсэіст Іван Савоська ўсеўся за стол пісаць свой чарговы аўтабіяграфічны раман з цыкла раманаў «Мая славутая дарога».

**Васіль СІМАНЕНКА**

## ЭПІТАФІІ

### ГУЛЬТАЮ

Яму аднолькава, ці
паміраць, ці жыць:
Жывым ляжаў і тут ляжыць.

### ЗАЙЗДРОСНІКУ

А той начамі ўсё шыпіць і
свішча,
Хоць іператварыўся ў
парашок:
Чаго магіла ў суседа вышай
І труна даўжэй аж на
вяршок.

### ПСЕЎДАВУЧОНАМУ

Стамлёны дзейнасцю сваёю,
Тут спачывае ў навуку
кандыдат, —
То ж проста перад вамі пад
зямлёю
Дарэмна гіне цэлы пуд
цытат.

### НЕ ДАЧАКАЎСЯ

З сябе гатоў ён скуру
здзерці,
Каб выправіць як-небудзь
тое зло:
Пасмеў няшчасны
ўзяць ды і памерці,
Хоць указання не было...

*Пераклаў з украінскай Міхась РУДКОЎСКІ.*

## ЭПІГРАМЫ

**Пятрок ШЭРКА**

### Рэцэнзія на паэтэсу

Канцэпцыя... Рэтраспекцыя.
Рэмінісцэнцыя...
Квінтэсенцыя...
Фактура... Фабула...
Кабетка вабная.

### Скарга музы

Браткі, ратуйце!
Ён мне нялюб.
Альбо друкуйце,
Альбо скасуйце
Абрыдлы шлюб.

**Анатоль ЗЭКАЎ**

## Сабачы брэх

*Сучасная байка*

Калі з пасады
Знялі Ваўкадава
І славу
Яго,
Бы ветрам, здзьмула,
Уся сабачая дзяржава
Лягчэй умомант уздыхнула.
Раптоўна шаўкі асмялелі,
Свае ашчэрыўшы клыкі
Сярод двара:
Маўляў,
Куды раней глядзелі,
Што Ваўкадаў такі-сякі —
Даўно б турнуць яго пара!

Мараль
Прыміце на павер,
Бо з ёй, мараллю, гора:
Сабакі брэшуць на таго
Цяпер,
Каму падбрэхвалі
Учора.

## ДЗІВАК-ЧАЛАВЕК...



Мал. М. ДАНІЛЕНКІ.




Мал. А. ГАРМАЗЫ.

**Міхась ШКЛЯР**

## МІЖ НАМІ КАЖУЧЫ...

### ЗАТЫЧКА

Здаецца, яшчэ толькі ўчора ён марыў адчуваць сябе хаця б пылам з-пад літаратурных колаў. Калі ж зрабіўся спіцай, дык пачаў прагнуць стаць воссю. А, між тым, ці ёсць для колаў больш важная рэч, чымся загваздка—маленечкая такая затычка?..

### ЛЕБЯДЗІНАЯ ПЕСНЯ

Масціты празаік Гуськоў знайшоў яго, гуляючы берагам лебядзінага возера. Вельмі ўразіла пісьменніка знаходка... Пасля доўгага роздуму ён вырашыў пісаць наступны раман лебядзіным пяром.

### ГАЛОЎНАЕ — МЕЦЬ ЗУБЫ

Кажуць, што ў гэтага паэта няма свайго твару. Але чые ж тады зубы ён паказвае?

**Браты БАРОЎКІ**

### КРЫТЫКА

— Дзед Язэп, кажуць, ты можаш раскрытыкаваць нават тэлефонны слуп?

— А чаму б і не, Хвядос, калі на тым слупе адарваны дрот матляецца, як твой язык.

### ПАРАДА

— Мой сынок малы-малы, а яго ніякімі шчырымі словамі не ўгаворыш, каб за сабою прыбраў.

— А ты, суседка, пагутары з ім бярозавымі.

— Якімі-якімі?

— Тоненькімі ды гнуткімі.




Мал. М. ЧАРНЯЎСКАГА.




з 30 лістапада па 6 снежня

30 лістапада, 18.15

**«ПРАЧЫТАЙЦЕ МАЕ ПІСЬМО...»**

Агляд пошты за тыдзень.

30 лістапада, 19.00

**ЗАКЛЮЧНЫ КАНЦЭРТ ФЕСТЫВАЛЮ МАСТАЦТВАЎ «БЕЛАРУСКАЯ МУЗЫЧНАЯ ВОСЕНЬ»**

Трансляцыя з Белдзяржфілармоніі.

1 снежня, 19.50

**«СПАДЧЫНА — БУДУЧЫНІ»**

Перадача расказвае пра ўтварэнне і дзейнасць Беларускага фонду культуры. У ёй прымаюць удзел І. Чыгрынаў, Г. Штыхаў, Л. Валяеў, Я. Сахута, С. Друшчыц.

Вядучы — А. Мальдзіс.

2 снежня, 19.00

**І УСЕСАЮЗНЫ ФЕСТЫВАЛЬ МУЗЫЧНЫХ ТЭАТРАЎ**

С. Пракоф'еў. «Вогненны анёл». Спектакль Дзяржаўнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Узбекскай ССР імя А. Наваі. Рэжысёр-пастаноўшчык — народны артыст Узбекскай ССР, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР Ф. Сафараў. Музычны кіраўнік пастаноўкі — народная артыстка СССР Д. Абдурахманава.

3 снежня, 19.00

**І УСЕСАЮЗНЫ ФЕСТЫВАЛЬ МУЗЫЧНЫХ ТЭАТРАЎ**

А. Пятроў. «Майстар і Маргарыта». Спектакль Ленінградскага тэатра сучаснага балета. Пастаноўшчык — Б. Эйфман. Мастак — заслужаны мастак Грузінскай ССР Т. Мурванідзе.

3 снежня, 22.20

**І УСЕСАЮЗНЫ ФЕСТЫВАЛЬ МУЗЫЧНЫХ ТЭАТРАЎ**

Дыскусійная зала.

4 снежня, 19.00

**І УСЕСАЮЗНЫ ФЕСТЫВАЛЬ МУЗЫЧНЫХ ТЭАТРАЎ**

В. Шабалін. «Утаймаванне свавольніцы». Спектакль Саратаўскага тэатра оперы і балета імя М. Чарнышэўскага.

4 снежня, 20.10

**«БУГ». ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ ЧАСОПІС**

Шмат гадоў запісвае легенды і паданні Палесся настаўнік Мухавецкай школы Л. Г. Філатаў. Вас чакае знаёмства з ягоным скарбам.

5 снежня, 13.05

**«СЛОВА — ПАЭЗІІ»**

Вершы П. Труса.

5 снежня, 18.10

**«ЗЫЧЛІВАЕ СЛОВА»**

23 кастрычніка гэтага года ў Доме літаратара адбыўся творчы вечар А. Зарыцкага. Праз шэсць дзён паэта не стала... Вы ўбачыце творчы вечар, на якім ён развітваўся з усімі намі, з прыхільнікамі яго таленту.

Уступнае слова крытыка Ю. Канэ.

5 снежня, 19.00

**«ТЭАТР І ЧАС»**

Нататкі з І Усесаюзнага фестывалю музычных тэатраў.

6 снежня, 17.05

**«ВЫБРАННІК ТЭРПСІХОРЫ»**

Перадача прысвечана творчасці народнага артыста СССР В. Елізар'ева. Вас чакае сустрэча з балетмайстрам і з адным з лепшых яго спектакляў — «Карміна-Бурана» на музыку К. Орфа ў пастаноўцы ДАВТа Беларускай ССР.

## У «КНІГАРНІ ПІСЬМЕННІКА»

А. БАЖКО. Выбраныя творы. Паэмы, вершы. Мн., Мастацкая літаратура», 1987.—2 р. 40 к.

Н. ГІЛЕВІЧ. Выбранае. Вершы, паэмы. Пераклад з беларускай. М., «Художественная литература», 1987.—1 р. 60 к.

С. ЗАКОННІКАЎ. Сутнасць. Кніга паэзіі. Мн., «Мастацкая літаратура», 1987.—70 к.

А. КАЗЛОВІЧ. На маёй далоні лінія ракі. Аповесць-эсэ. На рускай мове. Мн., «Мастацкая літаратура», 1987.—1 р.

МОВАЮ ЭЗОПА. Байкі, вольныя пераклады Э. Валасевіча. Мн., «Мастацкая літаратура», 1987.—85 к.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск. На белорусском языке.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць раз на тыдзень, па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63856

АТ 02361

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП. Мінск, вул. Захарава, 19.

ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-19-85, аддзела крытыкі і бібліяграфіі — 33-22-04, аддзела публіцыстыкі і нарыса — 33-19-65, аддзела прозы і паэзіі — 33-22-04, аддзела культуры і выяўленчага мастацтва — 33-24-62, аддзела тэатра, кіно і тэлебачання — 33-21-53, аддзела музыкі — 33-21-53, аддзела пісьмаў — 33-24-62, аддзела інфармацыі—33-24-62, аддзела мастацкага афармлення і фотаілюстрацый — 33-44-04, 33-24-62, карэктарскай — 32-20-64, бухгалтэрыі — 23-73-37.

Матэрыялы прымаюцца надрукаваныя на машынцы (праз два інтэрвалы). Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.